ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛіМ ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

13 ЖНІЎНЯ 1993г. № 32 (3702) Кошт 10 руб.





# 13 ЖНІЎНЯ, 13-ГА ГОДА...

*Сёння ў нашага старэйшага кампазітара Анатоля Васільевіча БАГАТЫРОВА дзень нараджэння. Яму — 80. Народны артыст рэспублікі, прафесар, аўтар опер, вакальна-сімфанічных, аркестравых, шматлікіх камерных ды харавых твораў. Захавальнік лепшых класічных традыцый, якія прадаўжаюцца ў творчасці ўжо некалькіх пакаленняў ягоных выхаванцаў... Так, у Багатырова — багата вучняў, сярод якіх і вядучыя прадстаўнікі беларускай кампазітарскай школы. Адзін з іх вітае шаноўнага юбіляра.*

Я сказаў-запытаўся: «Неба, ці бачыла ты калі-небудзь лічбу, шчаслівейшую за 13?» Пасміхнулася ў адказ Неба. Я сказаў-запытаўся: «Неба, ці бачыла ты калі-небудзь лічбу, больш нешчаслівую, як 13?» Грозна грымнула Неба. Тады я сказаў-запытаўся: «Неба, што гэта: выключэнне з правілаў — чысло 13?» «Так», — адвярнулася ад мяне Неба. Я ж, скіраваўшы позірк да Неба, выгукнуў: «Дык вось што гэта за дзень, што за год — дзень і год, калі нарадзіўся высокі грамадзянін, высокі настаўнік мой — Анатоль Багатыроў! «13» — лёс; год і дзень, боская тоеснасць, якая складаецца з Праўды і Супярэчлівасці, Любові й Капрызу».

Дзіцё Раю, Вы, хто здолеў выхаваць нас, Вашых апосталаў, такіх розных; хто за свае 80 год не падставіў нашыя галовы д'яблу; мужны, справядлівы і супярэчлівы, сёння радуецеся святлу жыцця. Бо Госпад менавіта Вам даў магчымасць прайсці суровыя выпрабаванні вялікімі імёнамі Вашых сучаснікаў, не згубіцца сярод іх, не страціць нас, Вашых вучняў! Вы — стваральнік Храма кансерваторыі! Захапляюся, о Вялікі...»

«Усё?» — зыркнула Неба ўрачыстай вясёлкай. «Усё!» — адказаў я, укленчыўшы ў дзень юбілею Майстра.

**Андрэй МДЗІВАНІ**

*Фота Ул. КРУКА*

Кола дзён

***Змяняецца ўсё... Змяняецца ўлада, змяняецца лад, не змяняецца толькі надвор'е. Як заўсёды падчас жніва на Беларусі льюць дажджы. Але такіх, як сёлета, не было даўно. Затоплены Гомельшчына і Берасцейшчына. Маштабы стыхійнага бедства жахлівыя. Не менш жахлівыя сёлета і «тэмпы» жніва: убрана ўсяго толькі 20 працэнтаў ад пасевянага. І хай кажуць, што вінаватая ў гэтым не адна прырода, але і адсутнасць паліва... Гэта толькі падкрэслівае тое, што сітуацыя на Беларусі склалася крытычная. Кіраўнікі ж нашыя працягваюць спакойна адпачываць. Пра свой кавалак хлеба яны не хвалююцца?..***

СЕНСАЦЫЯ ТЫДНЯ

Нацыянальны банк Беларусі падрыхтаваў праект пастановы, у адпаведнасці з якой з 15 жніўня на тэрыторыі краіны адзіным плацёжным сродкам стануць «зайчыкі». Праект дакумента перададзены на зацвярджэнне ва ўрад і парламент, аднак, калі ён будзе падпісаны, пакуль невядома. «Чорны рынак» адрэагаваў на «ўцечку інфармацыі» адразу: за долар просяць ужо больш за дзве тысячы «зайчыкаў», а за 1000 расійскіх рублёў — 1800 «зайчыкаў». Калі беларускія грошы гэтак хутка абясцэньваюцца, то гэта, пэўна ж, камусьці трэба...

НАВІНА ТЫДНЯ

Экспертныя групы ў асноўным закончылі работу па падрыхтоўцы пытанняў да заключэння дагавора аб супрацоўніцтве паміж Беларуссю, Украінай і Расіяй. Беларускі бок унёс свае прынцыповыя прапановы, якія інакш як «цікавымі» не назавеш: стварэнне агульнай мытнай тэрыторыі з адзінай тарыфнай мяжою і агульнай сістэмай мытнага кантролю, вядзенне агульнай гандлёвай палітыкі ў адносінах да трэціх краін, распрацоўка адзіных падыходаў у сістэме цэнаўтварэння і г.д. Ажыццяўленню гэтых ідэй беларускіх эканамістаў, нам здаецца, можа перашкодзіць Украіна, якая не падзяляе паняцці «незалежнасць» і «супрацоўніцтва» і не прыніжае першае дзеля другога.

ЛІЧБА ТЫДНЯ

Шэсць мільярдаў рублёў выдзеліў урад Беларусі для ліквідацыі вынікаў стыхійнага бедства на Гомельшчыне і Берасцейшчыне. Аднак гэта кропля ў моры. Бо па папярэдніх падліках толькі на Берасцейшчыне страты склалі больш за сто мільярдаў рублёў. Таварыства Чырвонага Крыжа Беларусі звярнулася да суайчыннікаў з просьбай дапамагчы тым, хто пацярпеў ад паводкі. Ахвяраванні арганізацый і грамадзян прымаюцца на рахунак 700536 гардырэкцыі Белбізнесбанка код 153001 з паметкай «Выратаванне».

НЕЧАКАНАСЦЬ ТЫДНЯ

Кампанія «Белавія» да канца жніўня адмяніла большасць рэйсаў у краіны бліжняга замежжа. Прычына адмены — празаічная: адсутнасць паліва.

«ЗАЯВА» ТЫДНЯ

Каардынацыйны камітэт Народнага руху Беларусі выступіў з заявай аб палітычнай і сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў рэспубліцы. Народны рух лічыць, што, каб выйсці з крызісу, сёння недастаткова стварэння эканамічнага саюза і прапануе «ініцыіраванне Рэспублікай Беларусь стварэння Беларуска-Расійскай Канфедэрацыі, да якой у наступным маглі б далучыцца Украіна, Казахстан і іншыя рэспублікі былога СССР». Нагадаем, што ў НРБ уваходзіць 18 розных арганізацый, а ў парламенце яго прадстаўляе дэпутацкае аб'яднанне «Беларусь». І таму мэты, якія ставіць перад сабою рух, не такія ўжо і бяскрыўдныя. Да таго ж, НРБ не збіраецца «спыняцца на дасягнутым», ужо падрыхтаваны праект аб стварэнні «ценявога кабінета міністраў». Дзіўна, што яшчэ трэба «рухаўцам», улада і так практычна ў іх руках.

КАНФУЗ ТЫДНЯ

Мільярд марак, які выдзелены Беларусі, Украіне і Расіі Нямеччынай, як дапамога «остарбайтэрам», можа так і застацца ў Нямеччыне. Калі Беларусь і Украіна гатовы весці любыя перамовы па гэтым пытанні, то Расія штучна зацягвае яго разгляд. На першым пасяджэнні кантрольнага савета фонду «Узаемаразуменне і прымірэнне», у якім прынялі ўдзел М.Дзямчук, П.Краўчанка, П.Казлоўскі, было заяўлена, што Нямеччына можа і стаміцца чакаць і ўрэшце проста грошы пакінуць у сябе.

КУР'ЁЗ ТЫДНЯ

Падчас аперацыі па затрыманні асоб, якія разбойнічалі на трасе Доўск—Гомель, у адной з пошукавых груп прапаў аўтамат з 30-цю патронамі. Кур'ёз, аднак, не ў гэтым, а ў тым, што УУС Гомельскага аблвыканкама звярнулася да грамадзян праз газету з просьбай за ўзнагароду дапамагчы знайсці страчаную зброю. Маўляў, хто знайшоў аўтамат — прызнайцеся і аддайце!.. Як высветлілася потым ніякая «аперацыя» міліцыяй у той дзень не праводзілася. Аўтамат быў «забыты» на капоце аўтамашыны, падчас руху ён зваліўся...

Кола дзён

# БОЛЕЙ ВАГАЦЦА НЕЛЬГА

9 жніўня Выканаўчы Камітэт Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады прыняў заяву аб грашова-фінансавым становішчы ў Рэспубліцы Беларусь. У ёй адзначаецца, што як манапаліст на рэсурсы, Расія ніколі не ўлічвала інтарэсы Рэспублікі Беларусь ды іншых краін СНД. Пра тое сведчыць і грашовая рэформа, калі без ведама і ўсялякай інфармацыі былі выведзены з абарачэння савецкія і расейскія грошы ўзору 1961—1992 гг. Сотні мільярдаў грашовых знакаў былі ператвораны ў смецце. Больш таго, напярэдадні рэформы Расійскі Нацыянальны Банк, як здзек над нашай краінай, прыслаў цэлы вагон старых знакаў /аж 10 млрд. рублёў/ на Беларусь.

Пацярпела прамысловасць Беларусі, у чарговы раз абкрадзены тысячы простых грамадзян, якія пазбаўлены магчымасці паехаць да родзічаў у бліжэйшае замежжа, у адпачынак, на лячэнне з чарнобыльскай зоны. Грашовыя рэформы ў Расіі не закранулі толькі інтарэсы саўмінаўскіх чыноўнікаў. Яны, як і раней, без цяжкасцей абменьваюць свае разліковыя білеты на новыя расейскія грошы ў суадносінах 1 да 1, а простыя людзі вымушаны звяртацца да мянялаў і перакупшчыкаў, губляючы праз «чорны» абменны курс немалую частку свайго заробку.

У сувязі з рэзкім пагаршэннем стану грашова-фінансавай сістэмы Рэспублікі Беларусь і фактычным шантажом з боку Расіі выканкам БСДГ прапануе на пачатку верасня склікаць нечарговую сесію ВС Рэспублікі Беларусь, дзе трэба разгледзець пытанне аб неадкладным уводзе сваёй нацыянальнай грашовай адзінкі, а ўжо сёння ўрад і НБ Беларусі павінны рэальна стварыць стабілізацыйны фонд, клапаціцца аб вызначэнні валютнага курсу нацыянальных грошай і іх канверсуемасці на долары, германскія маркі ды іншыя СКВ.

Выканкам БСДГ лічыць, што без увядзення нацыянальнай валюты нельга спыніць спад вытворчасці, пераадолець інфляцыю і далейшае збядненне народа. Беларуская нацыянальная валюта павінна абараніць эканоміку краіны ад даларызацыі і рублевізацыі.

З нагоды

# КАДРЫ, ЯКІЯ РАШАЮЦЬ...

На мінулым тыдні міністру замежных спраў Беларусі прызначылі першага намесніка. Гэтую падзею на фоне рублёва-«зайцавых» праблем, што закранулі /балюча закранулі/ большую частку грамадства Беларусі, можна было б і не заўважыць. Вялікая, маўляў, справа: у Саўміне адным чыноўнікам болей стала!

І ўсё ж абмінаць увагай новую штатную адзінку ў МЗС Рэспублікі Беларусь не варта. З-за асобы, якая запоўніла гэтую вакансію, — Георгій Таразевіч, былы Старшыня Прэзідыума ВС БССР, былы старшыня камісіі па нацыянальных адносінах і нацыянальнай палітыцы ВС СССР. Па вяртанні ён некаторы час займаў пасаду старшыні камітэта па геадэзіі пры Саўміне Рэспублікі Беларусь. Відавочна, што гэтая нязначная пасля тых пасада была толькі «стартавай пляцоўкай».

Як бачым, у нашай суверэннай дзяржаве дзейнічае старая бальшавіцкая кадравая палітыка. Калі чалавек верны начальству, яго можна ставіць на якую заўгодна пасаду. Што камунальнай гаспадаркай кіраваць, што міжнацыянальнымі зносінамі, што геадэзіяй, што знешняй палітыкай. Абы хлопец быў добры! А яшчэ кажуць, што «добры хлопец» — не прафесія...

Сталінскі тэзіс пра кадры, якія «решают все», па ўсім відаць, захоўвае актуальнасць. Зараз шмат чаго будзе вырашаць у знешняй палітыцы Беларусі таварыш Таразевіч. Дык што ж гэта за «кадр» такі?

Нагадаем, што яго кар'еру вызначылі дзве драматычныя падзеі — менскія Дзяды 1988 года і тбіліская трагедыя. У Менску сурраць людзей, якія прыйшлі да магілак, што на Маскоўскай шашы, ушанаваць памяць продкаў, беспадстаўна, неспраквакавана былі кінуты міліцыянты з дубінкамі і вадамётамі. Многіх збілі, атруцілі «чаромхай», арыштавалі. У Тбілісі пайшлі яшчэ далей. Там людзей забівалі нагостранымі сапёрнымі рыдлёўкамі.

У Менску Таразевіч узначальваў камісію, якая нібыта мела мэтай высветліць праўду, а на самай справе проста паспяхова замяла вельмі невыгодны для ўладаў /як дэманстрацыя іхняй дурасці і цынізму/ інцыдэнт. Старшыню камісіі заўважылі ў Маскве. Яго прызначалі старшынёю ў аналагічную камісію па тбіліскіх падзеях. І там ён паказаў сябе малайцом. Пасля чаго стаў старшынёй камісіі па нацыянальных адносінах ВС СССР. Каб, значыць, менскі і тбіліскі вопыт т.Таразевіча скарыстаць для ўмацавання імперыі. Хто ведае, як далёка пайшоў бы ён, каб не Віскулі... І вось ён зноў на радзіме, і зноў пры «справе». У 1991-м, ды нават у мінулым годзе чалавека з такой біяграфіяй не адважыліся б пасадзіць у высокае крэсла. Баяліся грамадскай думкі. Цяпер — не. Пасля таго, як грамадства сцярпела адмену рэферэндуму, посткамуністычных начальнікаў нічога не стрымлівае.

Сімптаматычна, што на Беларусь у вялікай колькасці вяртаюцца і прыязджаюць тыя, хто аказаўся не пры справе ў Маскве /той жа «ідэолаг» Іван Антановіч/; тыя, хто не хоча жыць у незалежных нацыянальных дзяржавах Балтыі; тыя, каго не можа прыняць Расія па палітычных меркаваннях /скажам, вайскоўцы, на чыім сумленні віленская трагедыя 13 студзеня 1991 года/.

Разам з тым сорак тысяч афіцэраў, ураджэнцаў і патрыётаў Беларусі, што знаходзяцца зараз за межамі нашай краіны, не маюць беларускага грамадзянства. Бо такія кадры гэтай уладзе не патрэбныя.

Такая кадравая палітыка. «Кадры рашаюць усё?»

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

# МЫ КЛІЧАМ ЦЯБЕ...

15 жніўня па каталіцкім календары вернікі святкуюць Унебаўзяцце Найсвяцейшай Панны Марыі, свята, якое вядома ў народзе і пад назвай Прачыстая. Няма б ні была пільніца, якое б дабрэйшы стаяла надвор'е для жніва, сапраўдныя вернікі ў гэты дзень заўсёды ішлі ў касцёл, а не ў поле. Ішлі і неслі з сабою зёлкі, краскі, сабраныя з тутэйшых палёў, раннія яблыкі ды грушы — для асвячэння. У адной з беларускіх песень вельмі хораша пра гэта спяваецца:

**Матачка Божая, Матачка Добрая!**
**Бедныя дзеці, мы клічам Цябе...**

І ляціць, нясецца ў неба песня-просьба, песня-мальба... Узнясецца песня просьбы і над Мінскам, над Катэдральным храмам Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі. На жаль, пакуль што гэтае свята будзе праходзіць менавіта пад адкрытым небам, бо сам храм пакуль што недаступны для вернікаў.

Аб змаганні мінскіх католікаў за вяртанне ім святыні ведаюць ужо, як кажуць, на самых розных узроўнях, у розных установах. Абнадзеілі вернікаў некалі адказы на іх пытанні Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі С.С.Шушкевіча, якія прагучалі ў часе прамога эфіру на тэлебачанні. Але час ідзе, а вернікі замест таго, каб стаць гаспадарамі сваёй святыні, цяпер вымушаны быць нават не кватарантамі ў спартсменаў ды фізкультурнікаў, як гэта было раней, а горш таго святкаваць свята свайго храма на вуліцы, каля ягоных зачыненых на замок дзвярэй. Хто і калі адчыніць іх?

**І.ЖАРНАСЕК**

Ліст у рэдакцыю

# КРОЧЫЦЬ БУДЗЕМ РАЗАМ?

Шаноўная рэдакцыя «ЛіМа»!

Звяртаюся да Вас афіцыйна, як кіраўнік Беларускага тэлебачання, з нагоды матэрыялу, апублікаванага 30 ліпеня 1993 года пад рубрыкай «Воля беларусаў свету».

Я разумею, што безыменны аўтар уступу выказвае думку рэдакцыі. Але няўжо ў цэлага рэдакцыйнага калектыву не знайшлося тэлевізара, альбо хаця б праграмы тэлебачання, каб пераканацца, што Беларускае тэлебачанне не замоўчвала першы з'езд беларусаў свету, а шырока яго асвятляла.

«Пэўныя тэлесюжэты, прысвечаныя з'езду, былі проста бездапаможныя», — піша ваш безыменны аўтар, пасля таго, як аб'явіў, што ТБ, як і саўмінаўская прэса, увогуле замоўчвалі з'езд. Шаноўныя калегі! Я прапаную прачытаць пералік перадач і рэпартажаў, якія былі прысвечаны з'езду /у прыкладзеным спісе — каля 40 назваў перадач. — Рэд./. Калі ўжо мерацца зробленым, то шаноўны і паважаны мной «ЛіМ» не даў на сваіх старонках і адной сотай часткі таго, што было паказана па тэлебачанні. Няўжо гэтага безыменны аўтар не разумее? Ці, убіўшы сабе ў галаву стэрэатып пра бальшавікоў-антыбеларусаў, якія акапаліся на тэлебачанні, можна рыпець пра гэта да скону веку? Навошта спатрэбілася перакрэсліваць чужую работу, чужы неймаверны высілак, нават не бачыўшы гэтай работы і гэтага высілку? Ці сумленна гэта? Да ведама ананімнага аўтара скажу, што асвятленне работы з'езда беларусаў свету па тэлебачанні вісела на валаску ад зрыву. І не па нашай віне. Арганізатары ад «Бацькаўшчыны» не хацелі акрэдытаваць нашых журналістаў, не выдавалі прапускоў аператарам, рэжысёрам, інжынерам перасоўных тэлевізійных станцый.

Як гэта ацэньваць?

Дадам, што ні старшыню тэлерадыёкампаніі, ні першага намесніка нават не запрасілі на з'езд.

Я не пакрыўдзіўся. Бо маё месца было не ў залі з'езда, а там, дзе трэба было «цягнуць цяжэразны

Адраджэнне

# ДУХОЎНЫМ СТАЎ ЯГОНЫ ХЛЕБ НАДЗЁННЫ...

Забытыя імёны вяртаюцца да нас часам нягучна, нібыта выпадкова, а наша даніна пашаны ім запозніваецца, ператвараецца ў рэдкія згадкі ў спецыяльных выданнях. Раскіданы па музейных сховішчах Беларусі, па прыватных зборах ды сям-там па сялянскіх хатах работы Язэпа Драздовіча. Ягоны музей на радзіме ў Германавічах, сабраны энтузіястамі з любоўю і разуменнем, невялічкі і знаходзіцца далёка ад буйных культурных цэнтраў. Адбылася ў Віцебску канферэнцыя і адкрылася выстава, не першая на Беларусі, але ці шмат было іншых? І хіба можна гэтым абмежавацца, калі прызнана нарэшце значнасць асобы Драздовіча для беларускай культуры? Дагэтуль не выдадзены альбом ягоных твораў /касмаганічныя сюжэты мастака цікавыя не менш за Чурлёнісавыя фантазіі, але ці параўнальныя адносіны нашых суседзяў да свайго нацыянальнага таленту з нашымі/. Дагэтуль пераважае здзіўленне пры згадванні імя Драздовіча — на жаль, мала хто чытаў ягоныя дзённікі, вершы, углядаўся ў дзівосны строй жывапісных работ мастака.

Тры гады назад скульптар-дыпломнік Ігар Голубеў прадставіў на абарону праект помніка Язэпу Драздовічу. Тры гады назад у Беларускую акадэмію мастацтваў і Мінскі гарадскі фонд культуры звярнулася дырэктар музея Драздовіча ў Германавічах А.Райчонак з просьбай адліць помнік мастаку, а калгас, дзе знаходзіцца музей, Таварыства аховы помнікаў і Міністэрства культуры Беларусі пералічылі грошы. Тры гады назад Мінскі гарадскі фонд культуры заключыў дамову і набыў у Мінгарвыканкама нанава адліты герб БССР /які так і не спатрэбіўся гэтай установе/, каб скарыстаць гэту бронзу для скульптуры Драздовіча. Адлілі два помнікі: для музея ў Германавічах з сілуміну і для Мінска з бронзы, а потым доўга шукалі для яго месца. Помнік мог стаяць, напрыклад, перад Дзяржаўным /Нацыянальным/ музеем Беларусі замест расейскай пушкі. Драздовіч — нацыянальны мастак, краязнаўца, і помнік яму цалкам упісваўся б у вобраз музея. Дзіўная і незразумелая /бо грашовых перашкодаў не было, гэта падарунак гораду/ пазіцыя дырэктара І.Загрышава, які катэгарычна адмовіўся ад такой выгаднай з усіх бакоў прапановы.

Адкрыццё помніка адбылося 6 жніўня ў Траецкім прадмесці. Можна спрачацца /як гэта было на абароне дыплома/ пра тое, наколькі вобраз адпавядае асобе. Але ніхто не стане аспрэчваць значнасць падзеі. Мінску даўно патрэбны такі помнік.

**Н.КУРЛЫКІНА**

*На здымку: на адкрыцці помніка Рыгор Барадулін, Васіль Шаранговіч, Васіль Быкаў, Ігар Голубеў.*

●

**Язэп Драздовіч —**
**павятовы Мікеланджэла**
**Знаёмы быў з Сатурнам**
**і з Ярылам.**
**А доле па-скупечы доля**
**ўсмешку важыла,**
**Не дазваляла развінуцца**
**крылам.**

**І ён, адкопваючы замчышчы**
**й паганішчы,**
**Вяртаў дамоў крывіцкі**
**дух забраны.**
**Пусты булён на посным**
**вогнішчы таганячы,**
**Стаяў каля апостальскае брамы.**

**Ніжэліся пад мастакоўскімі**
**паглядамі**
**У церамы Ўсяслававы парогі.**
**Драздовічаўскімі кілімамі**
**пулятымі**
**Усланы ў беларускі дзень дарогі.**

**Вяшчуе дзень руплівая ластаўка,**
**Гняздо ўючы,**
**І праллі лёсу натамляюць**
**верацёны.**
**Язэп і хлеб перагукаліся**
**Драздовічу,**
**Духоўным стаў**
**Ягоны хлеб надзённы.**

**Р.БАРАДУЛІН**



воз» праграмы, рыхтаваць штодзённыя аператыўныя двухгадзінныя рэпартажы.

Мы здолелі паслаць здымачныя групы па ўсіх кропках у рэспубліцы, дзе адбываліся падзеі, звязаныя з першым з'ездам беларусаў. Як гэта ўдавалася — асобная тэма. Адным словам, тэлебачанне зняло і паказала ўсе /паўтараю — усе!/ падзеі, якія мелі дачыненне да з'езда. І ніякая іншая арганізацыя не мае такога аб'ёму матэрыялаў аб з'ездзе. Гэтыя дакументальныя здымкі застануцца для гісторыі Беларусі. Мы выканалі свой абавязак як належыць. І раптам на старонках газеты, нібы мокрай анучай, плясь па вачах. Дапрацаваліся... Дзякуй.

Ніяк не магу ўцяміць, навошта спатрэбілася газеце абагульняць у «антыбеларускі калгас» яшчэ і тэлебачанне? Ці то другія «ворагі беларушчыны» зніклі?

Прапаную пазнаёміцца з няпоўным пералікам перадач БТ, якія прайшлі ў эфір падчас работы з'езда. Гэта былі і прэм'еры фільмаў, спецыяльна падрыхтаваныя да гэтых дзён, і цыкл перадач пра беларусаў у свеце, і музычныя, і літаратурныя перадачы.

Але асноўнымі былі шматгадзінныя рэпартажы з пасяджэнняў з'езда.

Ніхто на нас не ціснуў, ніхто не цэнзураваў. Здымалі і паказвалі.

З'езд скончыўся, а перадачы яго ўдзельнікаў яшчэ працягваюць з'яўляцца на экране. Навошта ж абражаць вялікі калектыў людзей, якія ў сілу сваіх творчых магчымасцей працавалі добра?

Засмучаны гэтым інцыдэнтам яшчэ і таму, што «ЛіМ» быў першай газетай, якая надрукавала мае развагі аб праблемах станаўлення нацыянальнага тэлебачання.

Думаў, што крочыць будзем разам.

З павагай,

**П.ШАЎЧУК**
**першы намеснік старшыні тэлерадыёкампаніі Беларусі**

**АД РЭДАКЦЫІ.**

**Шаноўны Павел Антонавіч!**

**Мусім пагадзіцца, што сапраўды ў той рэдакцыйнай прадмове да дакументаў першага з'езда беларусаў свету рэпліка ў бок Беларускага тэлебачання ўспрымаецца ў адным негатыўным кантэксце з ацэнкай урадавай прэсы. Апошняя, калі прагледзець газеты за адпаведны час, застаецца, на наш погляд, справядлівай. Хоць, заўважым, пра «замоўчванне» з'езда ўсім ТБ там не гаворыцца — згадваюцца іменна** ***пэўныя*** **тэлесюжэты /да іх, мабыць, сёння ўжо позна вяртацца.../. Лічым абгрунтаванай і тую выснову, што з'езд «не набыў належнага асвятлення ў рэспубліканскіх сродках масавай інфармацыі».**

**На жаль, з-за змушанай сцісласці прадмовы, сапраўды, засталася ў цені вялікая праца калектыву тэлевізійшчыкаў па асвятленні з'езда, і вартая добрай ацэнкі работа тэлебачання намі не адзначана. Лічым, аднак, што нельга ўспрымаць гэты момант як пошукі «ворагаў беларушчыны» на БТ...**

Пісьменнік і жыццё

Лідзія АРАБЕЙ

# ЛЯ САМАГА СІНЯГА МОРА...

Наша таксі кіравалася з Адлера ў Піцунду, мы ехалі адпачываць і, як заўсёды, радаваліся сустрэчы з гэтым райскім краем — з морам, што справа ад нас прасціралася да нябёс, люструючы на сабе чыстае сіняе неба і водбліскі сонца, з гарамі, што ўзвышаліся злева і на якіх дзе-нідзе ўжо запальваліся чырванню дрэвы, з водарам, настоеным на моры, на кіпарысах, на сухім кустоўі, што апаясвала долы гор, і які ўрываўся ў нашу машыну, перабіваючы пах бензіну.

Наперадзе, за паваротам, доўгаю кучараваю стужкаю вывіваліся Гагры — месца, куды з усяго свету злятаюцца курортнікі, ад якіх шумна бывае на вуліцах і ў крамах, на шырокім пляцы шматгалосага базару. Вось і знакаміты Гагрынскі парк, раскідзістыя пальмы, між камлёў якіх свеціцца мора. Мы едзем далей, далей.

Аднак сёлета ў Гаграх па-незвычайнаму пуста. Па вуліцах не шпацыруюць загарэлыя жанчыны ў адкрытых сарафанах, мужчыны ў шортах, не відаць і дзяцей. Каля кіёскаў з пляжнымі таварамі, дзе звычайна ішоў жвавы торг, таксама не відаць народу. Вельмі мала машын. І тут мы ўспомнілі — нас папярэджвалі, у Абхазіі — не вельмі спакойна, можа, не ехаць туды сёлета, няхай там народ вырашае свае праблемы...

Стаяў верасень восемдзесят дзевятага года... Аказалася, вырашэнне праблем яшчэ наперадзе... Тым годам быў толькі пярэдадзень.

Мы не былі абыякавыя да таго, чым тут цяпер жыве Абхазія, і спыталіся ў шафёра — хударлявага, цёмнатварага, нібы высушанага на сонцы мужчыны, для нас незразумела — грузіна ці абхазца, — што тут, у іх, адбываецца?

— Ат, — незадаволена адказаў той. — Вайна была, я малы быў, пацан быў, жменьку проса дзялілі на ўсіх, а цяпер у людзей грошы, золата поўна, а разам чай не п'юць...

Было ясна, што шафёр незадаволены тым, што вакол адбываецца. А ён памаўчаў крыху і яшчэ дадаў:

— Зямлі раней усім хапала, цяпер зямлі не хапае, мая, твая зямля... Два метры ўсім хопіць, быццам збіраюцца два вякі жыць...

Прыехалі. Разлічыліся. Развіталіся з шафёрам. Агледзеліся. Здаецца, тут у нас, у Доме творчасці, усе спакойна, усё, як заўсёды. Роўна дыхае цёплае мора, горы з месца не зрушыліся, стаяць, велічныя, хаваючы вяршыні ў сіняватым мроіве. Каля дома цвітуць ружы, бегаюць коткі, чакаючы вячэры, што вынесуць ім са сталоўкі чуллівыя курортніцы.

Уздыхнулі з палёгкаю.

А назаўтра прачыталі зварот да нас, да гасцей Піцунды, надрукаваны на лістку паперы і прымацаваны да дзвярэй нашага дома:

«Паважаныя госці Піцунды! Мы шкадуем, што палітычныя працэсы, якія ў нас адбываюцца, не даюць нам цалкам рэалізаваць вядомую гасціннасць абхазаў, але ўпэўнены, што цеплыню нашых сэрцаў вы адчуеце, зразумееце нашы праблемы і яшчэ не раз наведаеце нашу казачную зямлю, якая называецца Абхазіяй...»

Наўрад ці думалі тыя, хто пісаў гэты зварот, ува што ператвораць яны свой казачны край і ці знойдуць сюды дарогу новыя госці.

Але ў чужы манастыр са сваім статутам, як гэта кажуць, не ходзяць, мы прыехалі сюды на кароткі тэрмін і даравалі гаспадарам некаторыя нязручнасці: што ж, яны дабіваюцца свайго і ў іх забастоўкі, зачыненыя магазіны, не ходзіць рэйсавы аўтобус. На базар, па садавіну мы тупаем пехатою, і не толькі мы, доўгім ланцужком ідуць і ідуць па шашы курортнікі, саступаючы дарогу легкавічкам. Больш нецярплівыя «галасуюць». Аднойчы «прагаласавалі» і мы. Спынілася светлая «Волга». Пажылы мужчына, моцны целам, смуглы — ці ад прыроды, ці ад загару, адчыніў нам дзверцы.

Мы ўселіся. Ён рушыў. Спытаў крыху яхідна:

— Што, пехатою ходзіце?

— А што ж нам рабіць? Вы ж бастуеце...

— Бастуюць тыя, хто працаваць не хоча, — адсек ён.

— Дык вы супроць забастоўкі?

— Я — супроць, забастоўка нічога не дасць.

— А вы грузін ці абхазец?

— І грузін, і абхазец...

Другім разам зноў «галасавалі», спыніліся чырвоныя «Жыгулі». За рулём стары чалавек, нагола стрыжаны, валасы адрастаюць сівым кароткім вожыкам, праз белую тэніску выпінаюць худыя лапаткі.

— Аб'явілі забастоўку, аўтобусы не ходзяць, дык мы, во, «галасуем», — нібы апраўдваюся я.

— Вайна была, такі бяда была, — загаварыў ён з моцным акцэнтам, — а такога не было... Людзі хочуць нічога не рабіць і шмат зарабляць...

Божачка, значыцца, людзям, простым людзям, што жывуць на гэтай зямлі, не патрэбны ні забастоўкі, ні ўся гэта канфрантацыя, яны хочуць спакойна жыць, працаваць... Хто ж тады ўсё гэта ўшчынае, каму гэта патрэбна?

Маленькі абхазскі народ стаіць пад пагрозаю генацыду. Грузіны з абурэннем заяўляюць, што ў Абхазіі жыве толькі семнаццаць працэнтаў абхазаў і сорак працэнтаў грузін, таму абхазы не маюць права адрываць Абхазію ад Грузіі. І гэта так. Але абхазы хочуць захаваць сваю культуру, мову...

У цэнтры Піцунды галадаюць дзевяць маладых абхазаў, галадаюць пяты дзень. Яны ляжаць у цёмнай нішы на верандзе Дома культуры, прыкрытыя коўдрамі, — ночы і тут халодныя. Справа ад іх — партрэты маладых мужчын, што загінулі ў час канфлікту з грузінамі ў Сухумі шаснаццатага чэрвеня. Каля партрэтаў — свежыя чырвоныя ружы. Адна за адною падыходзяць групы абхазаў, гавораць словы падтрымкі на абхазскай мове. Над хлопцамі, якія галадаюць, вісіць плакат: «Калі маёй мове суджана памерці заўтра, я гатовы памерці сёння...»

Побач з Домам культуры, на зялёным газоне, дзяжурыць машына хуткай дапамогі.

Дзевяты дзень у Гаграх галадаюць пятнаццаць чалавек. Над імі лозунг: «Усім народам роўныя правы!»

З чатырнаццатага верасня пятнаццаць мужчын і пяцёра жанчын галадаюць у Гудауце.

Друк, на той час яшчэ савецкі, маўчыць, быццам у Абхазіі нічога не адбываецца. Чытаем лістоўку:

«19 верасня 1989 года праграма «Час» паведаміла пра кіта, які трапіў у бяду і якога выратавалі людзі. А вось пятнаццаць дзён у Абхазіі ідуць галадоўкі, а прэса хаця б абазвалася...»

На слупах, на сценах дамоў расклееныя зварот надзвычайнай сесіі Піцундскага пасялковага Савета. Там ёсць такія словы:

«Нашы галасы звернуты да матак, жонак, сясцёр, да ўсіх тых, каму дарагое сённяшняе і будучае нашых дзяцей. Спыніце сваіх мужоў, сыноў, братоў! Сёння над нашым сонечным куткам чорныя хмары, мы стаім над безданню нацыянальнай варожасці, не дапускайце неразважлівых дзеянняў, лёс заўтрашняга дня залежыць толькі ад нас з вамі!»

Гэта пісалася яшчэ ў верасні восемдзесят дзевятага. Прадбачылі бяду.

Ці жывыя вы цяпер, хлопцы, што галадалі ў тым верасні?

Як не лопнуў мой тэлевізар ад

(Працяг на стар.4)

# УЛАДЗІМІР ГНІЛАМЁДАЎ:

# «У ЛІТАРАТУРЫ ПАВІННА БЫЦЬ УСЁ...»

ГУТАРКУ ВЯДЗЕ ГАЛІНА КАРЖАНЕЎСКАЯ

**— Уладзімір Васільевіч, спрабуючы ахапіць мысленным паглядам літаратурную панараму апошніх гадоў, ці не прыходзілі вы да высновы, што карціна гэта стракаціць, драбіцца і не вельмі паддаецца ўсеабдымнаму ахопу?**

— На «ўсеахоп», універсальнасць сёння, вы маеце рацыю, прэтэндаваць цяжка ды і непатрэбна, але агульнае ўяўленне аб літаратурнай панараме, асабліва для крытыка, трэба мець. Панарама гэтая сапраўды стала больш разнастайнай, стракатай, як вы кажаце, у параўнанні з той, якой была раней. Скажам, «Полымя» амаль адначасова друкуе раманы — Т.Бондар «Ахвяры лёсу» /пра сучасных алкаголікаў/ і пісьменніцы XVIII ст. Саламеі Пільштыновай /Русецкай/ «Авантуры майго жыцця», які проста праймае рамантычным адчуваннем свабоды, што надае яму цалкам сучаснае гучанне. Адзін і другі творы ўспрымаюцца як розныя праявы аднаго літаратурнага працэсу.

Адчуваецца прыліў маладых сіл, асабліва ў паэзіі /Л.Гумянюк, Ю.Пацюпа, А.Аркуш, іншыя/, прабіваюцца парасткі так званай «гарадской» прозы. Праўда, у «гарадской» прозе пэўных, колькі-небудзь сфармаваных імёнаў пакуль што не бачу. Тут яшчэ спатрэбіцца шмат працы, каб утварыўся неабходны эстэтычны пласт, на якім яна магла б трымацца.

**— Мы адыдзем ад паэтычнай дзялянкі, куды ўкладзена нямала вашай працы як даследчыка і літаратурнага крытыка, і зірнём шырэй на літаратурныя абсягі. Як вы лічыце, ці большае ў нас твораў, якія чытаюцца не па абавязку, не з прафесійнага інтарэсу, а проста з чытацкай цікавасці, для душы, як кажуць?**

— Мяркую, удалыя творы, якія чытаеш не толькі з прафесійнай цікавасці, трапляюцца і ў нас, аднак радзей, чым хацелася б. Не стае мастацкай глыбіні, зыркасці фарбаў, яскравасці стылю, нечаканасці. Шмат драбнаты. Што такое драбната? Гэта вынік працы па інерцыі. Напрыклад, Эн піша раман. Раней адмоўнымі героямі ў яго былі кулакі, цяпер — камуністы. У астатнім усё па-ранейшаму. Што ж гэта, як не інерцыя думкі, якая коўзаецца па паверхні, а ў глыбіню не сягае?

Прызнаюся, апошнія тры-чатыры гады я большай часткай чытаў літаратуру эміграцыі. Вялікай нечаканасцю з'явіліся для мяне раманы Масея Сяднёва «І той дзень надыйшоў» і «Раман Корзюк», а таксама яго лірыка. Там я знайшоў тое, чаго не ставала нам тут, — усечалавечы погляд на свет, глыбіню самарэфлексіі, шчырасць, цеплыню беларускага слова.

Застаўся ў памяці Акула з яго «Гараваткай» — яна ўразіла і абсягамі свайго сюжэтнага дзеяння, і тым, як адбілася ў гэтым творы беларускае аблічча самога аўтара, яго маральна-эстэтычны свет і, вядома, свет яго герояў.

З таго, што апошнім часам прачытаў у мінскіх часопісах, прыгадваюцца роздумныя нарысы Я.Брыля, успаміны П.Мядзёлкі /з цікавай філасофскай прадмовай У.Калесніка/, «Дзённік» Антона Луцкевіча, «Спецперасяленцы» М.Гарадзецкага. Падабаецца мне, як рашуча павярнуў ў бок публіцыстыкі Б.Сачанка /гэта адчуваецца і ў яго апавяданнях/.

Па ўсім відаць, што перад літаратурай стаіць задача выпрацоўкі новай мастацкай структуры. Са старой структурай /гэта — і героі, і сюжэты, і канфлікты, і жанры і г.д./ даводзіцца развітвацца. Змяняецца погляд на рэчы і з'яўляюцца новыя маральна-эстэтычныя прыярытэты, новыя каштоўнасці, агульначалавечыя паводле сваіх вартасцей.

Сродкі, якімі карыстаюцца некаторыя нашы рэалісты-традыцыяналісты ў перадачы праўды жыцця, таксама сёння ўжо не задавальняюць, бо занадта часта скіроўваюць на прыблізнасць, бязмэтны натуралізм, дробнапісанне, а рэчаіснасць мае патрэбу ў іншай трактоўцы.

**— Адбываецца, на мой погляд, і пэўная кансервацыя жанраў. Тыя ж раманныя эпапеі, напрыклад... Вянкі санетаў... Штосьці падобнае назіраю ў класічным балеце, дзе самадастатковасць формы замяняе сабой змест і начыста пазбаўляе нас магчымасці здзіўляцца.**

— Сёння ў літаратуры, на мой погляд, асабліва цэняцца праўдзівасць, дакладнасць, лаканізм, прастата, здольнасць да самааналізу. Мне здаецца, побач з іншымі эстэтычнымі ідэямі ў сучаснай нашай літаратуры павінна знайсці сябе ідэя ўспаміну /пазнанне як успамін — вядомая думка Платона/, разумеемая ў арганічным адзінстве чалавека і нацыянальнай гісторыі. Гэта значыць, пісьменніку трэба ісці ў глыбіню гістарычнай памяці як у глыбіню самога сябе і наадварот — праз сябе спасцігаць глыбіню гістарычных вытокаў. Можа, якраз прыклад гэтага мы і бачым у Брыля /палымянская публікацыя сёлетняга года/, які зноў і зноў вяртаецца да сябе, нешта ўзнаўляючы, згадваючы прымусова забытае, заслоненае часам.

Выпрацоўка новай мастацкай структуры звязана, мне здаецца, і з развіццём прыкладных жанраў — цікавасцю да нарыса, успамінаў, дзённіка, біяграфічных запісаў /кнігі Ф.Аляхновіча, Л.Геніюш, Я.Германовіча, А.Калубовіча і інш./.

Тут можа дапамагчы таксама і лірычная паэзія, якая першай выпрацоўвае новую мову, новае светаадчуванне. Праўда, я не адмаўляю і буйную форму, — скажам, раман. Плодна, пераадольваючы традыцыйна-прыземлены рэалізм, працуе ў гэтым жанры, напрыклад, В.Адамчык /ужо цэлая тэтралогія!/ і некаторыя іншыя пісьменнікі. У цэлым жа, трэба зазначыць, дараваную лёсам свабоду пісьменнікі па-сапраўднаму яшчэ не ацанілі і не выкарысталі. Нашу літаратуру яшчэ не захапіла стыхія жыцця — яна жыве на старыя дывідэнды.

**— Чаму? Ёсць спробы, асабліва сярод маладзейшай генерацыі літаратараў, жыць па-новаму. На практыцы гэта выяўляецца ў чыста прагматычным падыходзе да творчасці, у імкненні скарыстаць рыначныя законы. Адсюль і спробы, пакуль што кволыя, стварэння беларускай масавай культуры. Даводзілася чуць меркаванні, быццам яна і ёсць той канёк, на якім беларуская літаратура ўедзе ў папулярнасць ды заадно вывезе на сабе мову. Хіба не сімптаматычна, што крэн у бок «масавых» густаў узяло нават такое нявіннае па сваім профілі выданне, як «Бярозка»? Чаго варты, да прыкладу, фотаконкурс непаўналетніх прыгажунь...**

— Масавая культура — з'ява натуральная. Я разумею і ўспрымаю яе як спадарожніцу культуры, так скажам, фундаментальнай, якую яна тыражуе, размнажае, але замяніць не здольна і не павінна замяняць. Гэта як нуль пры адзінцы — разам 10. Возьмем, напрыклад, дэтэктыў. Беларускага дэтэктыву па сутнасці няма, а што ёсць, тое газетчына. Гэта ненармальна. Канёк ці кабыла — не ў тым справа. Важна, каб у літаратуры /а значыць, і ў культуры ў цэлым/ было ўсё — усе вітаміны, наяўнасць якіх дабратворна адаб'ецца і на развіцці мовы, і на папулярнасці самой літаратуры.

Па вашым пытанні можна меркаваць, што вы адмоўна ставіцеся да ўсіх праяў масавай культуры, яна, маўляў, ад д'ябла /«от лукавого», кажучы па-руску/...

**— Што ад д'ябла, а што — не, дакладна ведае толькі царква... Я ж лічу, што адносна масавай культуры, па-першае, не трэба мець асаблівых ілюзій, а па-другое — каб «масоўка» ведала сваё месца і не прэтэндавала на галоўныя ролі.**

— Згодзен. Масавая культура таксама мае патрэбу ў добрым гусце, высокіх крытэрыях і прафесіяналізме. Адно звязана з другім. Узаемасувязь масавай культуры і фундаментальнай вельмі шматстайная і не заўсёды гарманічная: часта яны выглядаюць саперніцамі. Прынамсі, актыўна ўздзейнічаюць адна на другую, пераймаюць адна ў другой, выпрацоўваюць новыя стылі. Ці варта нагадваць, што сёння, калі справа, хацелася б нам таго ці не, паварочваецца да рынку, гэтыя працэсы набываюць асабліва дынамічны змест. На Захадзе бывае так, што, каб дазволіць сабе напісаць даўно задуманы /свой!/ раман, аўтар павінен кінуць на кніжны прылавак адзін-два дэтэктывы ці што-небудзь падобнае — каб мець грошы на стварэнне запаветнага.

**— Дык не ад добрага ж жыцця тое робіцца...**

— Што датычыць «Бярозкі», то ў згаданым конкурсе юных прыгажунь я асабіста нічога благога не бачу. Павінен жа часопіс наладжваць кантакты з чытачамі...

**— Гэта, мабыць, той выпадак, калі сродкі трэба выбіраць. Што б мы сёння ні казалі пра траваяднага мастадонта — літаратуру сацыялістычнага рэалізму, але ў ёй была адна несумненна станоўчая якасць: яна аддавала перавагу светламу, жыццесцвярджальнаму пачатку ў чалавеку і жыцці.**

— Вы, інакш кажучы, закранаеце пытанне станоўчага героя. На маю думку, ідэя станоўчага героя павінна прысутнічаць у літаратуры. У платонаўскім, утапічным, калі хочаце, сэнсе. Сучасная літаратура, прызнаемся, у нечым згубіла, страціла ідэалы і маральныя арыенціры. Ды па вялікім рахунку вопыт сацрэалізму ўсё ж адмоўны, бо яго эстэтыка грунтавалася на тэндэнцыйных, «класавых», і, як вынік, вузкіх эстэтычных прынцыпах, падпарадкоўвалася ўладзе таталітарызму. Шмат было лакіроўкі, прыхарошвання, насілля над жыццём. Сацыялістычны рэалізм, які агульначалавечае, хрысціянскае падмяняў марксісцка-ленінскім, пры ўсёй сваёй знешняй маральнай чысціні — праява амаралізму, уніфікацыі і збяднення чалавечай асобы. Аднак, калі з гэтым «ізмам» развітацца даўно пара /хоць не так і лёгка/, дык з маральнасцю — наадварот.

**—...Бо асноўны ідэал літаратуры — гуманістычны ідэал, як пісаў В.Быкаў.**

— А што эстэтыка можа ўступаць у супярэчнасць з этыкай — зноў-такі не страшна. Этыка таксама мае патрэбу ў праверцы і развіцці. Паводле сваёй эстэтычнай прыроды мастацтва нічога не бярэ напавер, да ўсяго даходзіць само — праз унутраную работу, сумненні, духоўнае напружанне, жыццёвы вопыт. У многім гэта тычыцца і сферы маралі.

**— Хацелася б закрануць і праблему «бацькоў і дзяцей», па-ранейшаму актуальную для нашай літаратуры — і не толькі для яе. «Дзеці», якім ужо за трыццаць, дэманстратыўна сцвярджаюцца адмаўленнем і абрыджваннем усяго, што было да іх. Адзін папулярны радыёжурналіст пісаў неяк у «Народнай газеце», што ад шэрага беларускага пісьменніцтва шкоды больш, чым ад камуністычнай партыі. Мяркуючы па ўсім, наша падросшая эліта сябе яшчэ пакажа. Ці я занадта катэгарычна выказваюся?**

— Праблема бацькоў і дзяцей — з разраду вечных, ды часам — як, напрыклад, сёння — яна абвастраецца. Дзеці крытыкуюць нас, так сказаць, бацькоў, можа, перабіраючы меру, з пазіцый так званага «задняга розуму», не надта абцяжарваючы сябе пры гэтым спробай дайсці да сутнасці з'яў і характараў, а тым больш прааналізаваць прычыны. Не стае, вядома, карэктнасці і таму журналісту, пра якога вы згадваеце. Толькі не зразумеў, што ён мае на ўвазе — грамадскую пазіцыю ці творчасць.

У Інстытуце літаратуры імя Я.Купалы, дзе я працую, ідзе, хаця і не без цяжкасцей, работа па асэнсаванні гісторыі беларускай літаратуры XX ст., што пераняла ў спадчыну ад папярэдняй эпохі старую утылітарна-«барацьбяную» эстэтычную традыцыю /таталітарная сістэма з уласцівай ёй сатанінскай вытанчанасцю здолела выкарыстаць гэтую традыцыю ў сваіх мэтах/. Падпарадкаваўшы сябе ўстаноўкам сацыялістычнага рэалізму, беларуская савецкая літаратура ў многіх сваіх творах ілюстравала /ці «апладняла», як тады казалі/ ідэі камуністычнай партыі па будаўніцтве сацыялізму, імкнучыся ўсё ж надаць яму чалавечае аблічча, якога ў таго ніколі не было.

Так у многім рабіў, думаецца, нават праслаўлены і дарагі нам І.Мележ, калі з дапамогай «ленінца» Апейкі масціў грэблю з Куранёў у Глінішча. Куранёўскай грэбляй, на жаль, справа не абышлася: пры Машэраве грэблю зрабілі амаль з усяго Палесся, праз меліярацыю асудзіўшы на згубу аграмадныя прасторы зямлі, вады, лесу. Інакш кажучы, добрымі намерамі масцілі дарогу /грэблю/ ў пекла...

**— У мяне такое адчуванне, Уладзімір Васільевіч, што вы свядома адышлі ад пытання. Ці вас ужо не цікавяць ідэйныя спрэчкі, ці не стае інфармаванасці, ці гэта адбылося з-за мяккасці вашага характару і звыклай для мінулых часоў «дыпламатычнасці»?**

— Спрэчкі, ідэйныя і іншыя, мяне сапраўды ўжо мала хвалююць. Падрастаючай эліце, калі такая ёсць на самай справе, я зычу поспехаў і не схільны перабольшваць небяспеку канфрантацыі паміж пакаленнямі. Мы, напрыклад, даведаліся, што А.Аркуш не так даўно стварыў аб'яднанне незалежных літаратараў. Хтосьці мо занепакоіўся, а я ўхваляю ініцыятыву маладога калегі. Маладым патрэбны аднадумцы і падобныя згуртаванні. Думаю, што з цягам часу паразумеемся...

**— Калі адны самі стануць сівымі, а другія адыдуць у лепшы свет... Даруйце за чорны гумар. Самасцвярджацца ўсё ж лепей праз творчасць, а не праз адасабленне і раскол. Як па мне, дык гэта завялікая раскоша і, можа, нават грэх — тузацца між сабою, радуючы ворагаў беларушчыны, між тым як праблематычнымі застаюцца больш важныя рэчы — лёс дзяржаўнай незалежнасці, нацыянальная самаідэнтыфікацыя «шырокіх мас» і інш. Асобаў, на жаль, малавата не толькі сярод палітыкаў, але і сярод літаратараў. Якую галіну ні вазьмі, асоба творцы была і будзе вызначальным фактарам, цэнтрам мастацкага сусвету. Ад пісьменніка адны звыкла чакаюць месіянства /па рускай традыцыі/, другія — эпатажу і дзівацтваў /па традыцыі Захаду/, а для трэціх, тутэйшага гатунку «інтэлігентаў» беларускі пісьменнік — недалёкі чалавек са шкоднымі звычкамі, і не больш таго. Вы маглі б накідаць нейкі агульны, усярэднены партрэт нашага літаратара?**

— Так, значэнне асобы мастака, творцы перабольшыць немагчыма. Вакол асобы пісьменніка фарміруецца ўсё ідэйна-эстэтычнае поле яго творчасці з уласцівым для яго маральным напружаннем і духоўнымі пошукамі. Беларускай літаратуры знаёмы творчыя постаці рознага тыпу: песняры-прарокі, месіі /Я.Купала, В.Быкаў/, своеасаблівыя «эпатанты» /накшталт Паўлюка Шукайлы — як пра яго пісаў незабыўны Янка Скрыган/, тонкія інтэлектуалы /М.Стральцоў/ і інш. Кожны пісьменнік — **сам, гэты.** Але даводзіцца пагадзіцца і з думкай пра існаванне сярэдняга беларускага літаратара, даволі безаблічнага, які дастаўся сённяшняму дню ў спадчыну ад учарашняга. Ён хоча ўсім дагадзіць і трымаецца пратаптанай дарогі. Выхаваны савецкай пугай, ён і ў нашы дні шукае які-небудзь хамут, у які можна было б за пэўную плату сунуць галаву. Вось гэта і ёсць, напэўна, той тып, які вас цікавіць.

**— Пісьменнік-палітык — параўнаўча новы ў нашых умовах імідж. Пісьменнік-адраджэнец — ужо больш звыклы для вуха выраз. Пісьменнік-рэакцыянер — і такое, на жаль, мае месца... Як вы ставіцеся да «чыстых» творцаў — не змагароў і не палітыкаў?**

— Даруйце, але ў вашым падзеле пісьменнікаў на пэўныя катэгорыі ёсць адценне некаторай штучнасці, таму што вы праводзіце гэты падзел знешне, па-за разглядам і ўлікам пісьменніцкай творчасці. Пісьменнік па-за сваёй творчасцю перастае быць мастаком, і гаворка пра тое, «чысты» ён ці «нячысты», губляе сэнс. Кожны добры твор я ўспрымаю як факт нашага Адраджэння. І наадварот, кожны дрэнны твор /г.зн. няпраўдзівы, вялы, вымучаны, недасканалы, бяздарны/ — як удар па беларускай літаратуры і па Адраджэнні. Гэта козыр тым, хто рады сказаць: «Посмотрите, как они пишут, невозможно читать...»

Маўчанне, адасабленне ад грамадскіх падзей /«не змагар і не палітык»/ я магу дараваць пісьменніку толькі тады, калі ён у гэты час знаходзіцца за пісьмовым сталом і піша нешта людскае.

**— Тут мая чарга пагадзіцца з вамі. І падзякаваць за шчырую гутарку.**

Сярод кніг

# ЗАДУМ БЫЛО — ГАДОЎ НА СТО...

Пасля смерці аўтара кніжка, асабліва паэтычная, чытаецца іначай, чым пры яго жыцці. Знаходзіш строфы і радкі, якія ўспрымаюцца, як прарочыя. «Па-воўчы мне хочацца выць, што рваўся я ў горад на злом галавы і за плячыма пакінуў усё дарагое». Такія горкія прызнанні кладуць своеасаблівы настраёвы адбітак на ўсю кніжку ў цэлым.

Іван Рубін не хаваецца за спіну лірычнага героя, а заўсёды і ўсюды, у кожным вершы, гаворыць ад свайго імя. Ён не стараецца адрэтушаваць свой партрэт, выправіць біяграфію, утаіўшы свае чалавечыя слабасці і памылкі. Паэт у вершах такі ж, як і ў рэальным жыцці: любіць і ненавідзіць, радуецца і засмучаецца, сумняваецца і сам рупіцца дайсці да ісціны.

Адкуль мы прыйшлі? Якую спадчыну атрымалі ад продкаў? Адказ на гэтыя пытанні знаходзім у кніжцы «Набытак». Трэба ведаць свой гістарычны радавод, каб зразумець, куды мы прыйшлі і куды ідзём.

**Насустрач заўтрашняму дню**
**Зноў благаслаўляю ўсё былое.**

**А памяць не аддам агню —**
**Я забяру яе з сабою.**

Асабістая памяць абагачаецца памяццю гістарычнай — і гэта, бадай, самы дарагі набытак паэта. У крэўнай еднасці з роднай зямлёй, з далёкімі і блізкімі продкамі — сіла яго як чалавека і творцы.

**Паром вяслуе к чалавецтву.**
**Вячэрнім небам — юны птах.**
**З радзімай еднасць. І замах**
**Пяром наіўным аж на вечнасць.**

Усё лепшае, напісанае Іванам Рубіным за апошнія гады, асветлена высокай і дзейснай любоўю да бацькаўшчыны, да беларушчыны. «Край мой родны з Белай Вежай, — прысягае ён, — ты зыходны мой рубеж». А змагацца ёсць з кім і ёсць за што. За волю і незалежнасць! За лепшую долю — сваю і нашчадкаў! За матчыну мову, нарэшце!.. Гледзячы, як адлятаюць у вырай птушкі, паэт цвёрда заяўляе: «Злыбядзе наперакор — край свой родны не пакіну».

Ад гарадскога тлуму і мітусні ён, ужо круглы сірата, вяртаецца на малую радзіму. Каб прычасціцца глытком крынічнай вады, прайсціся па грыбных баравінах, пачуць «буслаў клёкат над вечнасцю гнязда» — і акрыяць душой і целам. Наіўны, ад'язджаючы некалі з вёскі, ён хацеў забраць з сабою і гэты буслаў клёкат, і лес за рэчкаю Сулою, і блакітныя нябёсы над галавой... Толькі цяпер, пасталеўшы, зразумеў, што ўсё — прырода і людзі — жывое, сапраўднае, вечнае тут, на радзіме, дзе яго карані.

**Я адзін стаю на родным ганку,**
**І такі прастор для вока,**
**Што душа з надзеяй уздыхнула.**
**І, здаецца, вельмі недалёка**
**Маміна хусцінка мільганула.**

Усплываюць у памяці твары дарагіх людзей, якія адышлі ў нябыт. З верша ў верш пераходзіць маці. Знікае на нейкі час, каб зноў з'явіцца ці хоць бы напомніць пра сябе ў шчымліва-светлых радках: «Так знаёма дым чужы свярбіць, быццам мама падпаліла ў печы».

Маці, як жывой, расказвае сын пра свае няўдачы і крыўды, пра тое, што і сам часамі «бесталкова, шумнавата жыў». Не ўсё ладзіцца ў гарадскім жыцці, на працы і дома. Сяброў параскідала па свеце, а ворагаў стала болей. І балюча гняце адзінота, не дае плёну і радасці «жыццё без заўтрашняга дня, без волі, веры і сяброў». Маці слухае і маўчыць. А яму чуюцца словы, сказаныя ёю раней, яшчэ на гэтым свеце: «Пара і спаць, бо ПАДЫМАЦЦА хутка...» І ўдзячна б'ецца сэрца, і хочацца жыць.

Акрамя маці, аўтар кніжкі «Набытак» спавядаецца ў вершах полю, лесу, рэчцы, сузор'ям у небе. Яны таксама спагадаюць яму, знімаюць з душы гнятлівы цяжар — сваёй маўклівай увагай і ласкай. Здольнасць разумець прыроду, давярацца ёй, як блізкаму чалавеку, — яшчэ адзін паэтаў набытак. «Няўдалы гараджанін», ён зноў вярнуў сабе вёску: парадніўся з жывой прыродай, цяпер ужо навекі.

**Цішыня мая. І зноў світае**
**Сад старэнькі за акном.**
**Сыну горад сніцца, дом,**
**А мне хата бацькава святая.**

Тут, у родных мясцінах, сустрэў паэт прыгожую дзяўчыну, каханы быў і кахаў. У памяці жыве той дзень, калі яны, шчаслівыя, заснежаныя, ішлі «бліжэй да Новага года, бліжэй да свята». І трапяткія вусны шапталі: «Любы». І была яна — «кветкай, ракою, небам».

Аднак і ў інтымнай лірыцы адчуваецца разлад між марамі і рэальнасцю. У шчасця аказаліся кволыя крылы. І ўжо рыпяць арэлі, што раней — спявалі. І ўжо стрэмкай смыліць пытанне: «Разбілася люстра ці наша жыццё на дробныя часткі?» Рвецца слабая нітачка надзеі на лепшы адказ: «Час, нібы сякера, раздвоіў нашы лёсы».

І ўсё-такі душа світала жаночым імем, растуць дзеці, сын і дачка. Перакрэсліваючы ўсё благое, як апошні выдых, трапеча ў вершы прызнанне-даранне: «Шчаслівы я, што ты была».

Народная мудрасць вучыць: чалавек пры жыцці павінен пабудаваць дом, пасадзіць дрэва, выгадаваць сына. І пра гэты набытак думаў Іван Рубін, працуючы над кніжкай.

**Ні перад кім я не схіляю голаў ніц,**
**І літасці душа мая не просіць.**
**Ёсць родны хлеб і дом.**
**Крынічная вада.**
**Ёсць роднае акно і просінь.**
**І сад зямны.**
**І яблыня, якая шчодра пладаносіць.**
**Ёсць сын.**
**Яму ўсё гэта перадам.**

Тыя, хто сустракаўся з Іванам Рубінам, ведаюць, які гэта быў адароны, шчыры, таварыскі чалавек — паэт і журналіст. Часамі дзёрзкі, эмацыянальна-выбуховы, але заўсёды справядлівы. І бескампрамісна-смелы ў сваіх надзённых артыкулах і вершах. Розным «сугне-

*Іван Рубін. «Набытак». Вершы і паэма. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1992 г.*

# ПАЭТЫЧНЫ СІНТАКСІС

## ПАВОДЛЕ ТВОРАЎ МАСЕЯ СЯДНЁВА

Пісьменнік, які дбайна ставіцца да мастацкага слова, не можа не звяртаць увагі на сінтаксічны бок сваёй мовы. У пэўным сэнсе менавіта сінтаксіс вызначае адметнасць мовы таго ці іншага чалавека /у дадзеным выпадку пісьменніка/. Нездарма вядомы беларускі пісьменнік-эмігрант Масей Сяднёў неяк назваў сінтаксіс псіхалогіяй, душой мовы. І вельмі важна, каб сінтаксічны лад нашай мовы быў беларускім, не засмечаным іншамоўнымі канструкцыямі, толькі дакладна перакладзенымі на беларускую мову. Сінтаксічная калька псуе мову, робіць яе груваcткай, невыразнай, далёкай ад той, якой гавораць у народзе, цяжкай ва ўжытку. Кожнаму, хто бярэцца за пяро, трэба памятаць, што для любой рускай ці польскай фразы беларуская мова мае ўласны адпаведнік, не менш /а то і больш/ мілагучны і сэнсава ёмісты.

Масей Сяднёў добра разумее гэта. Можа, таму ў яго творах амаль не знойдзеш псеўдабеларускіх сінтаксічных канструкцый, што ідуць не ад натуральнасці, а ад штучнасці, узнікаюць у выніку нескладанай працы — паслоўнага перакладу з адной мовы на другую. Праўда, пісьменнік часам трапляе пад уплыў польскага або рускага сінтаксісу, выкарыстоўваючы словазлучэнні тыпу **чакаў на яго, чакала на ахвяры ці на самай рэчы, падмацавала на думцы**. Аднак звычайна свабоднае валоданне беларускай мовай, веданне яе вядуць пісьменніка да сінтаксісу, не толькі сапраўды беларускага, але і паэтычнага. Масей Сяднёў творча ставіцца да сваёй мовы, узбагачаючы яе /асабліва мову паэзіі/ шматлікімі прыёмамі паэтычнага сінтаксісу. Да ліку найбольш пашыраных сярод іх можна аднесці паўтор і інверсію. Акрамя таго, для пісьменніка ўласцівае частае ўжыванне аднаго з тропаў — мастацкага параўнання і адпаведна сказаў з параўнальнымі сінтаксічнымі канструкцыямі.

Параўнанне з'яўляецца самым частым у Масея Сяднёва вобразна-выяўленчым сродкам. Пісьменнік выкарыстоўвае разнастайныя віды параўнанняў. Параўнальныя звароты, што сустракаюцца ў яго мове, могуць мець простую або складаную будову і ўводзіцца ў сказ з дапамогай шматлікіх тыпаў злучнікавай сувязі /а іншыя параўнальныя канструкцыі — бяззлучнікавай сувязі/, займаючы ў сказе любое становішча — у пачатку, сярэдзіне ці канцы сказа. Найчасцей параўнальныя звароты ўводзяцца ў сказ пры дапамозе злучніка **як**: «І вечна ў харомы светлыя твае, як матылёк, яна ўсё будзе біцца». Радзей пісьменнік карыстаецца для сувязі параўнальнага звароту з астатняй часткай сказа іншымі злучнікамі — **нібы**: «Апошні дзень, нібы тапелец, кануў» і яго варыянтам **бы**: «Пытанне ў недаўменні стаўляеш, бы ў лато...»; **як бы**: «Заходні вецер бесперастанку гнаў, як бы з нейкага іншага свету, лёгкія хмары», **як быццам**: «Рвучыся ў бязмежжа, на прастор, як быццам маючы ў тым патрэбу, ялінкі, ўзбегшы знізу на вяршыні гор, свабодныя, адтуль шлюць прывітанне небу» і яго варыянта **быццам**: «За хатаю дрэвы мокнуць і быццам просяцца ў вокны». Нешматлікімі трэба лічыць бяззлучнікавыя параўнанні: «Праём у дзвярох чарнеўся глыбокай пасцяй». У склад параўнальных канструкцый могуць уваходзіць асобныя словы: «Блукалі, як хмары, як сны...», «З канца ў канец, нібы дрыўмі, людзьмі быў пляж загружан», «Прытаіліся, бы выдахлі»; словазлучэнні: «А смутку багата, як ілу ў кашы», «Душа зацялася і пасцілася, як душа манашкі», «Не мог з сябе я страху выгнаць і ўсё сядзеў, нібы маўклівы рыцар»; група словазлучэнняў: «Як збітыя ў гурт у спёку авечкі, студэнты ў чаканні таго прозвішча, затаілі дыханне», «З люстэрка глядзеў на яе як бы новы, незнаёмы для яе чалавек»; сказ /т.зв. дадаfor параўнальная частка складаназалежнага сказа: «Вядомыя мне вашы думы і сны, як бы рассталіся мы толькі ўчора», «На ім сышоўся свет увесь, і іншага няма як быццам». Параўнальныя канструкцыі ў творах Масея Сяднёва выконваюць шэраг вобразна-выяўленчых функцый: раскрываюць і ўдакладняюць змест слоў ці словазлучэнняў сказа, спрыяюць супастаўленню прадметаў і з'яў, дапамагаюць ствараць мастацкія вобразы і — утвараючы канкрэтнае або ўмоўнае параўнанне /бо, напрыклад, параўнальны зварот са злучнікам **як** выражае катэгарычнасць падабенства ці адрознення , а параўнальны зварот са злучнікамі **нібы /бы/, як бы, як быццам /быццам/** з'яўляецца ўмоўным ; неканкрэтным параўнаннем/ — робяць апавяданне значна больш выразным, вобразным, эмацыянальна-экспрэсіўным. Яны дазваляюць пісьменніку ахарактарызаваць тую ці іншую з'яву ці прадмет з новага, нечаканага боку і пункту погляду.

Паўторы ў мове твораў Масея Сяднёва таксама можна ўбачыць даволі часта. Асабліва гэта датычыць мовы паэзіі, дзе сустракаюцца практычна ўсе магчымыя віды паўтораў. У творах пісьменніка могуць паўтарацца асобныя словы: «Хвала зямлі, хвала жытам, хвала вясне, дажджу і грому», «Яны б прайшлі і бацьку свайго міма, прайшлі б, як непатрэбны грыб праходзяць, не спыніўшыся вачыма», «Паглядзеце ў хаце, паглядзеце, дзе хочаце — нікога няма»; словазлучэнні: «Два Мокрых чутка абляцела — Масеевага сына арыштавалі. Масееў сын у турме. Масеевага сына няма», «Мы мусім спраўдзіць, што мы вышэй за сябе. Чалавек заўсёды мусіць быць вышэй за сябе, інакш — ён не чалавек», «Погляд мой да нізоўя плыве ракою. Із смуткам і з любоўю плыве ракою»; простыя сказы: «Падае снег апаўночы, ліпне на голлі ялін. ...Падае снег. Пасцілае ночцы пасцель на начлег», «Ну нашто, ну нашто сваё сэрца я мучаю? ...Дык нашто, дык нашто сваё сэрца я мучаю?», «— Грамадзянін Корзюк, чыё гэта ўсё? Корзюк маўчаў. — Грамадзянін Корзюк, хто такі Генадзі Кандраценя? Корзюк маўчаў. — Грамадзянін Корзюк, як вы думаеце, хто перадаў гэта ў нашыя рукі? Корзюк маўчаў»: прэдыкатыўныя часткі складаных сказаў: «Я думаў, што гарэць, нібы на ветры, мне даволі — ляжыць гадоў маіх на вуснах горкі прысмак. Я думаў, што як вогнішча пакінутае ў полі, душу маю пакрыў халодны попелпрысак. Я думаў, досвед мой мяне навучыў і сцішыў — сваёй усхваляванасцяй не назаляць нікому», «Гэтак заўсёды: кулачылі — лямпа гарэла, у калгас гналі — лямпа гарэла, у турму каго — лямпа гарэла. У сельсавеце лямпа гарыць заўсёды на бяду»; у вершах — цэлыя строфы: «А ты ужо зняверыўся дазвання, душой упаў у безну саматы — было то Божае выпрабаванне, наколькі моцны духам ты», «Пабудзь ганчаром на хвіліну — не вельмі вялікі тут дар. Паслухай мяне ты, дзяўчыну, — нядрэннае слова: ганчар». У празаічных творах можна знайсці паўторы, тыповыя для мовы вуснай народнай творчасці, якія не толькі робяць апавяданне рытмізаваным, набліжаючы яго да вершаваных твораў, але і надаюць яму спецыфічную сказавую інтанацыю: «Ты можаш вініць мяне, бацька. Ты можаш праклясці мяне, бацька», «Брат, шкада мне цябе да слёз. Даражэнькі брат, пайду за табой у ваду і ў вагонь, не пасылай толькі маці. Дарагі брат, я не хачу, каб і ты ішоў... Дарагі мой брат, мы яшчэ можам вярнуцца...» Розныя віды паўтораў, што сустракаюцца ў творах Масея Сяднёва, звычайна ўжываюцца з некалькімі мэтамі. Яны дапамагаюць стварыць пэўны рытм, дазваляюць вылучыць у паведамленні самае істотнае для аўтара, спрыяюць павелічэнню ступені эмацыянальна-экспрэсіўнай насычанасці выказвання. Як правіла, павелічэнне паўтору вядзе да ўзмацнення і больш яркага выяўлення яго стылістычных функцый.

Інверсія, або змена парадку слоў, таксама з'яўляецца досыць пашыраным у Масея Сяднёва прыёмам паэтычнага сінтаксісу. Адваротны парадак слоў характэрны для словазлучэнняў наступных тыпаў: атрыбутыўных з прэпазіцыяй назоўніка /самы часты від інверсіі/: «Час выгнанніцкі», «ветры лютыя», «у браму ціхую і святую», «ценем маўклівым»; дзеяслоўных з прэпазіцыяй прыназоўнікава-склонавай формы: «пад здрыгі таемныя муру песня снуецца ў душы», «З прагавітасцяй звярынай, дзікай доўга я глядзеў на свет багаты», «Праз увесь час імклівы у парку я застануся ценем маўклівым»; дзеяслоўных камплектыўных з прэпазіцыяй залежнага слова: «І вобразы мае красою новай нейкай на вуснах тваіх трапяткіх зноў ажывалі», «Я за яго душой сваёю гас, спагада у крыві агнём пякучым тлела», «Няўдачы, страты нашы ўсе, як памяць іх адчыніць, суправаджаем, нібы ў сне, задумнымі вачыма». Інверсія можа назірацца ў складзе галоўнага члена сказа — выказніка, у тым выпадку, калі выказнік складаны ці састаўны, і выражацца ў прэпазіцыйным становішчы яго іменнай часткі: «Чысціні дакрануцца нага нічыя не паспела», «Гэта я так — спужаць хацеў цябе», «за працу сесці не магу прывычную». Часамі сустракаецца інверсія ў межах граматычнай асновы сказа, паміж галоўнымі членамі двухсастаўнага сказа — дзейнікам і выказнікам, калі дзейнік пачынае размяшчацца пасля выказніка: «Развейваўся пыл», «Спаць не хацеў Корзюк», «Пачуў я у грудзёх агонь святы кахання». Стылістычныя функцыі шматлікіх тыпаў інверсіі, уласцівых творам Масея Сяднёва, заключаюцца ў змене месца лагічнага націску і змене інтанацыі ў сказе, да якіх звычайна вядзе парушэнне звыклага парадку слоў. У сваю чаргу, змена месца лагічнага націску і інтанацыі служыць пісьменніку для таго, каб вылучыць у сказе тое ці іншае слова, звярнуць на яго ўвагу чытача. Член сказа, які займае нязвыклае становішча, атрымлівае дадатковую семантычную і эмацыянальную нагрузку. Да таго ж, паведамленне становіцца больш узнятым, экспрэсіўным, дынамічным.

Як відаць, асноўнымі прыёмамі паэтычна-

Пятрусь МАКАЛЬ

# ЗЯРНЯТЫ НЕБАМ ТРЫЗНЯЦЬ У ПАДПОЛЛІ...



## КРАТЫ

Нашы беды, нашы страты —
Ваш набытак залаты,
Парта-
краты,
бюра-
краты,
Плута-
краты,
краты,
краты,
Кабінетныя краты!..
Выглядалі мы з-за кратаў:
Прылятаючы здалёк,
Вольны вецер вусны кратаў,
Біўся ў шыбу матылёк.
Бегалі ў вачах квадраты,
Сэрца цікала ў цішы:
Вокны — краты,
дзверы — краты,
Краты нават на душы.
Звалі ў райскі сад Эдэма
Нас да самазабыцця
Парта-,
бюра-,
плута-,
дэма-,
Краты нашага жыцця!
Ані кроку без указкі —
Ад збавіцельных акрас
Дабрыні, спагады, ласкі
Аддзялілі краты нас.
Мы, прымушаныя такаць,
Згодна з росчыркам пяра
Сталі разам з вамі кракаць,
Плута-кра-ты,
кра-кра-кра!
Як свае загоіш раны,
Як парвеш калючы дрот,
Столькі год закратаваны,
Род мой крэўны, мой народ!
Нашы беды, нашы страты —
Ваш набытак залаты,
Парта-краты,
бюра-краты,
Тэхна-краты,
краты,
краты,
Папяровыя краты!

## ТУГА ПА ХАМУТУ

Пазбыўшыся ярма,
Куды хамут нам сплавіць?
Гаспадара няма, —
Каго хваліць і славіць?
Ідзём,
Ідзём,
Ідзём
Уласнымі нагамі...
Нам далягляд відзён
У дольцы, што ў нагане.
Ах, гэта ўжо было!
Страшыдла здані лепяць.
Нам папялішч святло
Душу і вочы слепіць.
Перш, як глыткамі піць,
Каштуеце прастор вы, —
Так страшна крок ступіць
Да волі, як да прорвы.
Мы — дзеці катуха,
Мы — завадныя слугі:
Як быць без пастуха,
Як жыць без карнай пугі?
А зменлівым панам
Да нас якая справа?
Куды ж падацца нам,
Налева ці направа?
Пачуеш за вярсту,
Як гулка боты звоняць:
Туга па хамуту
Натоўп на плошчу гоніць.

●

У ворыве па пояс і нароўні
З аблокамі ступае чалавек.
Сярпок маладзіка і бохан поўні:
Між іх дарога даўжынёй у век!
Загнаны ў статак я і глух і слеп,
Я да апошняй крошкі мову трачу...
Дык не пытайце: — Сейбіт,
дзе твой хлеб?
Не адкажу: не чую і не бачу.
Калі араў, падкопу не чакаў;
Зярняты небам трызнілі ў падполлі...
Я жаваранкаў з клеткі выпускаў,
Але вароны каркаюць на волі!
Перада мной любові паласа,
Дзе глушыць дурнап'ян сцяблінкі веры.
Як добра, што ў руках маіх каса,
Якую навастрылі касінеры...
Крыжовы ўздым сваёй душы сцярпець,
Адсвяткаваць над прорвай перамогу.
Дажаць.
Дажыць.
Дакрасаваць.
Даспець.
А што далей — судзіць самому Богу.

●

Спачатку былі не словы,
А згубы агонь і меч,
Калі ў непакорных галовы
Дзяржаўна зляталі з плеч.
Пытаюць, чаму не можа
Загаварыць народ,
Якому запхнулі прыгожа
Надзейнае заткала ў рот...
Мы, дзеці налётаў нязносных
Імперскага кулака,
Помнім бацькоў сваіх хросных —
Ад Сталіна да Ермака...
Што ні кажы, ні пішы ты,
Папрацаваў тапор!
З нітак крыві пашыты,
Імперыя, твой убор.
І хоць ад яго ўжо транты
З сябе мы сарвалі ўраз,
У масках сяброў акупанты
Лезуць у душы да нас.
Выходзім з-пад страшнай апекі
Пад гул меднагорлых трыбун:
Чуеце, нас вавекі
Больш не загнаць у табун!

●

Ах, на якім календары
Твой зорны час адценіцца?
Не плугары, а гандляры
Па залатому цэняцца.

Хто ля айчыннага руля?
Нібы пры раі брамнікі,
Стаяць падданыя рубля —
Учэпістыя крамнікі.

Нас грэюць міражоў глыткі:
Глядзім, нібы цэцеры мы,
На асляпляльныя латкі,
На прывідныя церамы.

Гукаюць звабна: — Выбірай,
Чаго не знаў надоечы!
Усё, што мае, крамны рай
Паказвае, не тоячы.

З цябе латочныя лычы
Барыш умеюць высечы,
Рукой дрыготкаю лічы
Купюраў хрусткіх тысячы.

Гандлёвы можаш выйграць бой,
Хоць і капшук той тоненькі,
Калі схаваны ў ім табой
Зялёненькі,
Зялёненькі...

А ўзбоч на вуліцы мядзяк
Ляціць у шапку воіна:
З вясёлкай ордэнскай жабрак
Удачу ловіць стоена...

Ах, на якім календары
Твой зорны час адценіцца?
Не змагары, а гандляры
Па залатому цэняцца.

## ДАРОГА ДА ХРАМА

Пасля нясцерпнага маўчання
Зноў тэлефон загаварыў.
Усё ж было, апроч вянчання, —
Уваскрасай, былы парыў!

На зайздрасць прывідным суседзям,
На спеўны покліч званара
З табой мы едзем, едзем, едзем
Да святара, да званара!

Любоў, як боскую ікону,
Я не аддам, я не прадам
Нікому на зямлі, нікому!..
Куды ж падацца, як не ў храм?

Адчуў я, нас з табою звязваў
Не толькі тэлефонны дрот,
Нас да кахання абавязваў
Душы акрыленай палёт!

Нас кліча райскіх дрэў суквецце,
Вяртаемся ў Эдэм святы, —
Нібы адны на цэлым свеце
Адам і Ева —
Я і ты...

Якое шчасце прычасціцца
Да богадайнага пітва,
Хоць мы забылі, як хрысціцца,
Хоць кругам ходзіць галава.

А тапаліны пух прыгожа
Трымціць, як вэлюма святло...
Усё ж было, было, а можа,
Зусім нічога не было?

●

У спрэчцы, варожай па тону,
Сцвярджаюць свае правы
Каменная цвёрдасць бетону,
Шаўковая мяккасць травы.
Калі б гэта толькі на вуліцы!
Але і ў маёй душы
Бетон з муравою туляцца
Поруч, як спарышы.
Каменныя скіну аковы,
І ў памяці зноў усплыве,
Як пастушок вясковы,
Я патанаў у траве.
З высі мне Бог сінявокі
Міргаў, каб забыўся я ў сне,
Нібы анёлы аблокі,
Ласкава люлялі мяне.
А ўзбоч на дарозе бетоннай
Сталёвы маторны клубок
Сваёю вагой мнагатоннай,
Здавалася, цісне ў мой бок...
Мы ў руху, дажджыць ці снежыць.
Доля — як цеціва.
Колам бетон належыць,
Належыць нагам трава.
Належыць галовам неба,
Ратоўная вышыня,
Якую ахоўваць трэба
Ад хмараў смяротных штодня.
Мы — жыта, што робіцца пожняй.
А серп набірае разгон...
Нас да мяжы апошняй
Не давядзі, бетон!
І ўсё-ткі мы верым, мы верым,
Свае адстаяць правы
У акіяне шэрым
Зялёныя астравы.

*Расказвае Алесь К.*

— Спачатку колькі слоў не пра гэтую Валю, а пра сябе і яе маці. А гэта значыць — пра сяброў.

Не ведаю, як у каго, а ў мяне з сябрамі неразбярыха. Спачатку іх было процьма - у школе, ва універсітэце, у раённым гарадку, дзе сем гадоў працаваў у газеце, і тут, у сталіцы, у якой вось ужо, дзякуй Богу, больш дзесяці гадоў. Бог ты мой, колькі і каго мы з жонкай паілі ды кармілі, колькім давалі начлег, чаго толькі не паслухалі і самі расказалі шчыра ды памагалі як маглі, але... Паволі, год за годам, мае сябры адышлі, і я, можна сказаць, застаўся адзін.

Той-сёй з маіх калег, хто ў свой час лісліва служыў нашаму, беларускаму, Беламу дому, залез высока, дык пры ўладзе і цяпер; той-сёй надта не выслужыўся, а той-сёй пакаціўся ўніз і заняпаў. Адны сталі са мной няшчырыя ці здзекліва паблажлівыя, іншыя, як толькі вып'юць чарку, спрачаюцца, папікаюць, а то проста выядаюць душу. І найбольш тыя, хто ў мяне дняваў і начаваў, каму я паспрыяў стаць на ногі і хто хацеў ехаць ды ехаць на маім карку, лічачы мяне за свайго папіхача. Вельмі ж аваўкалачыліся і каб прымелі, дык утапілі б мяне ў лыжцы вады два рыжыя і лысыя журналісты — аднаму я доўгі час не толькі памагаў, але нават перапісваў яго творы, паспрыяў выдаць кніжку, уладкавацца на працу і займець кватэру, а другога, калі ён нудзіўся на правінцыі, прывячаў у любую хвіліну, мусіў піць з ім без меры, як і бясконца слухаць пра тое, які ён харошы, але якія паганыя жонка, яго калегі па рабоце, я, гаспадар, таксама. Першаму я мусіў рана-позна сказаць, што не буду працаваць на яго як чорны вол, хопіць злоўжываць маёй шчырасцю, а другога не мог не суцішыць: нельга ж гэтак зайздросціць і ненавідзець людзей, трэба быць больш памяркоўным і цярпімым, а тое, што нагаворваеш на жонку, маці тваіх дзяцей, — ганьба. Як казаў, здавалася, лепшыя дружбакі перакінуліся ў самых зацятых ворагаў. І чым ім цяжэй без мяне, тым болей яны ашалелыя. Вельмі ж джаліць гэты другі, што ўрэшце пакінуў жонку і прыехаў у сталіцу шукаць шчасця: «Куды нам, няўдачнікам, да цябе! Ты і сем'янін, і творца выдатны!» Адным словам, я не так, як трэба, паводзіў сябе, нарабіў шмат памылак — нават сваёй залішняй шчырасцю.

Паверыце ці не, але сярод маіх рэдкіх сяброў — наша рэдакцыйная машыністка Клара /Валіна маці/, на два ці тры гады старэйшая жанчына. Той-сёй не верыць, што мы проста таварышкуем, лічаць: у нас штосьці большае. Бачыце, з маладзіцай свайго веку можа быць альбо раман, альбо непрыязь. У мяне ж з Кларай, кажу шчыра, няма ні любошчаў, ні варожасці.

Гэтая Клара — цікавая кабета. Яна яшчэ і цяпер — а ёй недзе пад пяцьдзесят ужо — стройная, заўсёды модна апранутая, непадступная. Не толькі радавыя журналісты, але і намеснікі галоўнага рэдактара, нават сам «шэф» павінны быць з ёй толькі на «вы», а то яшчэ і ліслівіць: у свой час яе муж працаваў загадчыкам сектара друку ЦК, меў сам і даваў доступ ёй да лечкамісіі, у элітныя санаторыі і стол заказаў.

Праўда, пазней усё ў Кларыным жыцці раптоўна перавярнулася: яе мужа за выпіўку ў сваім кабінеце збылі з ЦК у «шэрую» газету, дык ён там зусім запіў. Неўзабаве яго патурылі і адтуль. Ён стаў валацужным п'яніцам, дайшоў да таго, што краў дома грошы і рэчы, а пасля пачаў хадзіць па рэдакцыях і вымольваць капейкі на віно.

Клара перастала быць у «эліце», збла-жэла ад нэндзы і нястач, але не здалася, захавала і свой гонар, і свой, як мы казалі, «імідж». Нават і тады, калі развялася з мужам і пачала адна гадаваць дачку.

Мабыць, мы з ёй пасябравалі таму, што я спачуваў ёй, пачаў раіць яе як добрую машыністку знаёмым празаікам, спрыяючы зарабіць неблагую капейчыну. Ды мы з ёй сталі заядлымі дачнікамі, памагалі адно аднаму парадамі, насеннем ці расадай, а яшчэ я стаў яе «асабістым садоўнікам».

На маіх вачах звычайнела, пакрыху старэла Клара і падымалася яе дачка — тая часта, калі маці занядужвала і мусіла працаваць дома, прыносіла нам у рэдакцыю /найчасцей мне/ надрукаванае на машынцы, а то мы часта бачыліся на дачы. Дзяўчынка хораша ўзяла ад бацькоў усё лепшае: ад маці — гонкасць, грацыёзнасць і далікатныя рысы ва ўсім абліччы, ад бацькі — цёмны колер вала-

соў і вачэй, жвавасць. Спачатку яна была нясмелая, нават сарамлівая, бянтэжылася перада мной — як падлетак, а пазней як дзяўчынка, у якой досыць рана з неадольнай сілай пачала праяўляцца жаноцкасць: паволі знікала яе худзіна, сутуласць, круглелі клубы і большалі грудзі. Затым, як заўважаў я, яе дзіцячая скаванасць змянілася радасным інтарэсам да жыцця, да ягоных тайнаў, нейкім хвалюючым узбуджэннем, а яшчэ пазней — і жаночым какецтвам, какецтвам той, што пазнала ўжо цану маладосці і красы, хоча і ўмее падабацца мужчынам. У васемнаццаць гадоў яна, гэтая Валя, паўстала ўжо красуняй.

«Мая юная лэдзі — самае дарагое, што ў мяне ёсць, — аднойчы з радасцю і матчынай уцехай сказала мне Клара. — Самы вялікі мой ізумруд. Калі яна, не дай Бог, будзе гэткая нешчаслівая, як і я, то не вытрываю, зайдуся з гора...»

не прадбачачы, што магу захваляваць маладое дзявочае сэрца, хоць загадзя добра ведаў: не пасягаю і не буду пасягаць на гэтую Валю, якую люблю як сваю дачку. Ды на табе, выйшла тое, што калі-нікалі здараецца ў нашым жыцці: маладая закахалася ў пажылога. І не ў каго-небудзь, а ў мяне. Не зусім выпадкова дагэтуль яна часта гаварыла, што ёй не падабаюцца равеснікі, амаль усе яны, маўляў, несур'ёзныя і легкадумныя, дык цяжка каму з іх даверыцца. Ёй, казала, больш даспадобы сталыя мужчыны. «У маладых — маладое, — адказваў я, — дык няможна ўзяць і пераступіць цераз сваю маладосць. Усяму свой час».

«А я вось хачу пераступіць...»

Як я, сталы ўжо чалавек, тады не адчуў: гуляю з адмысловым агнём, што для мяне не страшны, бо я ад яго ўжо абаронены, але які можа абпаліць Валіну яшчэ незагартаваную душу? Няўжо —

Алесь, — падала голас. — Не лічыце, што я толькі захапілася. У мяне сапраўднае пачуццё.

— А што рабіць мне, сямейнаму?

— А якія вашы пачуцці да мяне?

— Я, пасівелы ўжо чалавек, не маю права гаварыць пра свае пачуцці да дзяўчат.

— Вы вельмі кахаеце жонку і вельмі любіце сына? — пытае засмучана.

Я не мог тады сказаць ёй тое, што скажу зараз. У мяне была свая глыбокая сямейная тайна. У свой час я ўзяў замуж неблагую — сціплую, мяккую і добрую — дзяўчыну, але... Яна не магла нарадзіць, дык наш сямейны карабель на пяты год жаніцьбы пачаў хіліцца набок, зачэрпваць ваду-бяду, станавіцца нямілым, нават малапатрэбным. Калі пазней сам дабіўся паехаць у Мінск на вучобу ў партшколу, то ўжо меў у галаве: ні ў раённы горад, ні да жонкі не вярнуся,

Генрых ДАЛІДОВІЧ

# ВАЛЯ



## З ЦЫКЛА «ЖАР КАХАННЯ. АПАВЯДАННІ ПРА ЖАНЧЫН»

Што да мяне /а мы з Валяй, бывала, падоўгу, як я лічу, шчыра гаварылі пра яе школу і равеснікаў, пра мае і іншых літаратараў кнігі альбо пра новыя фільмы, а пазней я памагаў ёй паступіць на філфак/, дык мне, скажу шчыра, было не толькі прыемна, але вельмі радасна бачыць гэтую юную лэдзі — яе зграбненькі стан, лёгкую і прыгожую, як у балерыны, хаду, прадаўгаваты тварык з роўным носікам, святло і чароўнасць, што зыходзілі ад яе сардэчнасці, яе цёплы і даверлівы позірк. Я яе нават палюбіў — не, не пакахаў, як кахае мужчына жанчыну, а якраз адчуў да яе чалавечую любоў. Як да маладой, чыстай і абаяльнай душы.

«Валечка, — неяк, любуючыся, сказаў я ёй, лічы, па-бацькоўску, — сталей, вучыся, а я за гэты час знайду табе сярод журналістаў альбо маладых пісьменнікаў добрага хлопца. Ты павінна ашчасліваць сваёй красой іменна нашага брата».

«Добра, дзядзька Алесь», — з жартам, а то нават і какетліва адказала яна, але крыху пазней, калі я аднойчы па-сяброўску выйшаў з рэдакцыі правесці яе да метро, мала сказаць збянтэжыла — можа, нават перавярнула ўсё маё жыццё.

Калі я збіраўся па-кавалерску ўзяць яе грацыёзную ручачку, каб далікатна пацалаваць, яна, неяк адразу наструнішыся і сумеўшыся, нечакана падала мне паперчыну.

— Што гэта? — усміхнуўся я.

— А вы пачытайце.

Разгарнуў лісток: «Дзядзька Алесь, шчыры і мілы чалавек, я вас кахаю!»

Я спачатку не зусім зразумеў, што тут і да чаго, бадай, дурасліва запытаў:

— Хто гэта мяне кахае?

— Я.

— Ты? Мяне?

— Я. Вас.

Пільней зірнуў: у яе кіпуча цёмных вачах не толькі звычайная ўзбуджанасць, мяккая цеплыня, але і хваляванне ды разгубленасць, поўненькія шчочкі пунсовыя, нават з чырвонымі плямінамі — значыць, нямала думала і зараз пакутуе за свой крок. Вось цяпер да мяне дайшло: гэтая юная лэдзі, мабыць, молада ўразілася ад нашых шчырых размоў, а таксама ад таго, што я пахвальваю яе, праводжу, цалую ёй руку...

Я сумеўся, нават разгубіўся.

— Валя, — запытаў, — ты жартуеш?

— Хіба можна з такога жартаваць?

Я не ўзяў яе руку, яна не падала яе мне. Бачачы, што я, старэйшы, зніякавеў, прамовіла:

— Падумайце. Колькі хочаце. Але рана-позна павінны сказаць мне сваё слова.

Тут жа мы развіталіся — хапатліва, таропка, саромеючыся пазіраць адно аднаму ў вочы, нібы ўчынілі якісьці вялікі грэх.

Валя перастала прыходзіць у рэдакцыю; я выбіўся з каляіны: мною захапілася маладое дзяўчо. Я дакараў сябе, што часамі чамусьці распускаў як той певень крылле, хацеў ёй спадабацца,

нават насуперак самому сабе — я захапляюся яе маладосцю і красой, а то і тайна кахаю, хачу часта бачыць і чуць?

Не раз і не два пытаўся ў сябе: што рабіць? Валя вясёлая па натуры, але вельмі пачуццёвая, у яе няўлоўная далікатная душэўная тонкасць, што ўсплывае шчырасцю, дабрынёй і пяшчотай, але заадно ёй самой можа прынесці глыбокую сардэчную рану. Прызнаюся, я не знаходзіў слоў, каб сказаць імі: Валя, між намі не можа нічога быць. Выбачай, мілае дзяўчо, што я міжволі абудзіў тваё першае пачуццё! А тут яшчэ маці, Клара, зусім расхвалявала мяне: «Замаркоцілася мая юная лэдзі. Здаецца, закахалася. І няўдала».

Чуючы гэта, я не мог падняць на яе вачэй, толькі мармытнуў: «Што ж, прыйшоў яе час».

«Прыйшоў, — уздыхнула затрывожаная жанчына. — Але не дай Бог, каб трапіўся які нягоднік...»

Вось так, падумаў я сам сабе, гэтым мярзотнікам магу стаць я. Але не, не стану. Ні дзеля Валі, ні дзеля яе маці-гаротніцы, што цяпер бачыць сваё шчасце найперш ва ўдалым даччыным лёсе. Як добра кажуць, час — найлепшы лекар. Пройдзе месяц-другі — Валя супакоіцца, пакрыху забудзе мяне, а некалі сама будзе з усмешкай успамінаць, як яна ў свой час, лічы, дзіця закахалася ў дарослага дзядзьку. А я... Мне, канечне ж, будзе сумнавата без яе, але я павінен абарваць наша знаёмства ці сяброўства. Ды Валя не адступілася, аднойчы першая пазваніла.

Дазвання страціў я спакой і развагу, як хлапчук. Ды вельмі здзівіла Валіна маладая настойлівасць:

«Што вы мне скажаце, дзядзька Алесь?»

«Давай, — кажу, — сустрэнемся, пагаворым».

Сышліся ў Купалавым скверыку, селі ў зацішным месцы на лаўку. Гляджу на Валю і не магу не ўразіцца: каб не выглядаць побач са мной вельмі юнай, адмыслова апранулася. Сядзіць во ў чорных туфліках на шпільках, у строгім сінім касцюме, з гладка зачасанымі і сабранымі на патыліцы ў вялікі вузел валасамі — быццам сталая ўжо жанчына. Ды і на тварыку — сур'ёзнасць, нібы пражыла ўжо доўгае і клопатнае жыццё.

— Валя, — прамовіў, — верыш ці не: я ў адчаі?

— Веру, — адказвае ціха.

— Чаму?

— Бо я — дзяўчына, а вы — старэйшы, сямейны чалавек...

— Ты мяне, Валя, здзіўляеш усё больш і больш...

Апусціла галаву, мне-цісне чорную сумачку, а губы мыляюць-мыляюць. Зусім як у падлетачкі. Сціснулася сэрца: мала, што з трывогай чакала гэтай сустрэчы, першая папрасіла яе, па-свойму апранулася ды строіць з сябе сталую, на самай справе ўсё ж горкае дзіцяня.

— Я не магу перамагчы сябе, дзядзька

знайду сабе іншую, нават, можа, жанчыну з дзіцем, абы стаць бацькам. Прызнаюся, адразу ж сярод аднакурснікаў кінулася ў вочы адна маладзіца — гладкая, высакагрудая і са спакусна ёмкімі і гуллівымі клубамі, з чорным кіпенем у вачах, з густам апранутая і, як хутка ўведаў, разводніца. Неўзабаве яна апынулася ў маёй пасцелі. Што яна, былая камсамольская дзяячка, птушка няпростая, зразумеў яшчэ тады, як толькі падмяў і сціснуў у абдымку: яна бессаромна зашаптала мне на вуха: «А у тебя всё крупно и крепко! Ещё! Ещё! Ещё!!!» Хоць не быў прыхільнік «шкурак», але захапіўся, захацеў адчуць сябе сапраўдным мужчынам ды заадно, думаю, дай паспрабую з гэтай падатной і гарачай паразумецца. Яна ж, калі пачула, што прашу нарадзіць мне сына, захіхікала: «Какой ты чудной, Саша! Во-первых, я не деревенская дура, защищена. Во-вторых, это я всегда могла сделать в своем районе. Я сюда ехала не ради новых пеленок, а ради карьеры...»

Я не мог не адцурацца ад яе. Яна нейкі час чаплялася, лезла пішчом, а затым махнула на мяне рукой і знайшла сабе «опекуна» ў гаркоме партыі, куды потым пайшла працаваць інструктарам. З гаркома трапіла ў абком. Калі на добрым харчы не толькі папаўнела, але і расплылася, страціла спакуслівую вабнасць, яе падштурхнулі ў Міністэрства культуры. Там яна і цяпер. Жыве з дачкой і зяцем і, кажуць, добра папівае; да мужчын паспакайнела, хоць зусім імпэту не страціла: кінулася аднаўляць з чыкінцамі былую сваю партыю — для яе тая «святая і непагрэшная», а сама яна — «сумленны камуніст».

Карацей, жонку я не пакінуў. Пашкадаваў: а як ёй, беднай, жыць? Мала ёй свайго гора ды маёй здрады, дык яшчэ зусім знявечу ёй жыццё. Мы ўзялі пакінутае незамужняй парадзіхай здаровае дзіця і выехалі з раённага гарадка. Тады, калі я з юнай лэдзі сядзеў у скверыку і мусіў сказаць ёй свае слова, хлапчук наш хадзіў ужо ў чацвёрты клас, і мы з жонкай любілі яго. Як свайго сына. Праўда, у нас з жонкай так і не было таго, што бывае ў мужчыны і ў жанчыны, у якіх усё добра. Я падоўгу мог быць без яе, а яна — без мяне, мы абое так і не зведалі разам, што гэта такое — страснае каханне...

Дык што я мог сказаць Валі пра жонку, былую каханку і прыёмнага сына? Урэшце пра сваё няўдалае сямейнае жыццё?

— Не выпадае, Валя, гаварыць пра тое, ці кахаеш жонку, ці любіш сына... — Прамовіў. — Я — галава сям'і. Я павінен клапаціцца пра яе.

— Разумею, — прашаптала яна. — Гадавалася ж без бацькі...

— Ды... Нават не падбяру патрэбных слоў, каб сказаць тое, пра што думаю...

— Гаварыце так, як думаеце.

— Цяпер, Валя, я для цябе добры знаёмы ці нават старэйшы сябра, —

прамовіў я з пакутаю, — а кім магу стаць пазней? Я ж даўно ўжо не дзяцюк, сям'і кінуць не магу... Выбачай, не тое і не так гавару, але што ёсць, тое ёсць...

Валя цярпліва ўсё слухала, мяла-ціснула сумачку, кусала вусны, а потым, калі я скончыў сваю няўдалую казань, запытала:

— Дык мы не можам сустракацца?

— Цяпер нам, Валя, нават як сябрам сустракацца нялёгка...

— Па-вашаму, мы не павінны бачыцца ўжо?

— Па-мойму, Валя, трапілі мы з табой у нейкія закалюты, у лабірынт, — уздыхнуў я. — Цяпер мы ўжо сябры і не сябры... Гуляць з табой? Як хлопец з дзяўчынай? Але ж, кажу, я даўно ўжо не халасцяк, я не змагу быць такім, якім быў у маладыя гады. Пазаляцацца мне да цябе? Але які табе толк з гэтага? Спакусіць? Рана-позна ўведаюць пра гэта людзі, твая маці...

— Я, дзядзька Алесь, паўналетняя ўжо, — Валя па-ранейшаму гаварыла ціха, ужо наліваючыся чырванню. — Сама ўсё рашаю...

— Ты варта вялікага кахання, добрага мужа, харошай сям'і і шчаслівай долі. Я табе гэтага даць не змагу. Паспрабую — пакрыўджу іншых...

— А калі я выйду замуж, вы зменіцеся? — нарэшце падняла галаву і зірнула на мяне вачыма, поўнымі любові і кахання. У мяне аж сэрца згарнулася ад гэтага позірку, што, здаецца, ішоў з самых душэўных глыбіняў. — Згодзіцеся бачыцца са мной?

Бач ты, што надумала? Ці не наракла сябе ў мае каханкі? Калі з той, камсамолкай-партыйкай, я ведаў, як паводзіцца і як ад яе пазбавіцца, дык Валя — гэта зусім іншае, ёй трэба будзе аддаць усю душу, а то кінуцца ў такі вір, што... Калі яна некалі разачаруецца, пакіне, дык можна будзе ад няспраўджаных надзей, болю, пакут і загібець. Колькі пажылых мужчын, што хацелі амаладзіцца з дзяўчатамі, якраз вось так прапала!

— Выходзь замуж, Валя, толькі за каханага, — сказаў.

— Тады я, мабыць, ніколі не буду замужняя... Альбо...

Яна больш нічога не дадала да гэтага «альбо»; калі мы развіталіся і разышліся ў розныя бакі, я потым нямала зведаў бяссонных начэй, думаў і пра тое, і пра іншае, хваліў сябе і дакараў, але паволі, не сустракаючы і не чуючы юную лэдзі, пачаў супакойваць сябе: у яе паволі астудзіцца, а то і знікне першае дзявочае захапленне, з'явіцца сапраўднае, і яна пакахае, выйдзе замуж і ашчасліваць добрага чалавека. Праўда, калі-нікалі трывожыўся, каб цяпер хлопцы-ўрвіцелі, а то і мужчыны-нягоднікі не спакусілі, не пусцілі яе па руках: яна з маладога адчаю можа ўчыніць абы-што. Ды Валя ўстаяла ад спакус, а на апошнім курсе выйшла замуж за крыху старэйшага камерсанта.

«Бачыце, — хітравата ўсміхнулася мне на вяселлі, калі нам выпала патанцаваць разам, — я споўніла ваш наказ: выйшла замуж...»

«Бачу», — усміхнуўся я, хоць, скажу шчыра, заныла сэрца, што красуня дастаецца камусьці для цябе чужому, што ён, таўсматы і з рэдзенькімі валасамі на макаўцы, можа, і не варты яе. Праўда, не асмеліўся спытаць: кахае яна яго альбо не?

Недзе праз год мы сустрэліся зноў — на хрэсьбінах Валінай дачкі. І на гэты раз я танцаваў з Валяй, дык яна, пакруглелая і пастанелая пасля родаў, зноў з хітраватаю ўсмешкай успомніла наша былое: «Бачыце, я яшчэ болей паслухала вас...»

Зноўку не знайшоў смеласці папытаць: ці кахае мужа, ці шчаслівая. А то і больш — збаяўся. Таго, што і як можа яна адказаць: зусім, канечне ж, не выпадкам хітруе, шмат недагаворвае, а то хоча і падкузьміць: дабіліся свайго?! І на вяселлі, і на хрэсьбінах я сядзеў як на іголках — то гаварыў-мянташыў шмат і недарэчы, то замаўкаў і аж гарэў ад чырвані.

Яшчэ праз паўгода я зусім быў выбіты з раўнавагі, калі Клара з плачам і енкам сказала мне, што яе зяця арыштавалі. Канечне, яна гаварыла, што ён не вінаваты, не дачыняўся да розных падманаў і зладзействаў, але тым не менш камерсант сеў на пяць гадоў. Я добра ведаў: трэба пабачыцца з Валяй, суцешыць яе, неяк памагчы, але доўга не меў духу пад'ехаць і пазваніць у дзверы ў той час, калі яе маці на рабоце. Пытаў пра яе настрой, перадаваў свае суцяшэнні і зычэнні праз Клару, якая цяпер зусім захварэла на нервы.

«Алесь, веру табе, як нікому, дык

(Працяг на стар. 14-15)

# МЕСЦА ТОЕ ВЫБРАЎ ГОСПАД...

## ПЕРШЫ МІЖНАРОДНЫ ФЕСТЫВАЛЬ ХРЫСЦІЯНСКАЙ МУЗЫКІ «МАГУТНЫ БОЖА»

***Матылёк-паднёўка не пабачыць таго, што ўведае за сваё доўгае жыццё арол. Але й магутнакрылы арол за свой век не спазнае той мудрасці быцця, якую адкрывае для сябе чалавек, чыя душа акрылена Вераю.***

***Як той матылёк, народжаны ў хмурны дзень, змарнее пад мокрым лістком, не дачакаўшыся сонечнай ласкі; як тая эфемерная жамярыца, спакушаная святлом сярод ночы, згарыць нізавошта ў агні газоўкі, — так і душа без веры. Без веры душа гіне.***

***Няўжо эпідэмія бяздушнасці разгуляецца сярод нашых зняверaных /а колькі такіх!/ суродзічаў, і давядзецца ім пасля ўсіх сварлівых зямных чэргаў агораць яшчэ адну — каб патрапіць... у апраметную?***

Але жывуць яшчэ на зямлі «людзі з Чырвонай кнігі», а дзе яны — там і цуд. Хіба не цуд — без утварэння адмысловых бюракратычных структур, без дзяржаўнага фундавання за паўгода падрыхтаваны і годна праведзены міжнародны фестываль, з пансіёнам для ягоных удзельнікаў і бясплатным уваходам для слухачоў!

Цуд, як вядома, выядае вочы зайздроснікам і недаверкам. Але не хочацца зараз і думаць пра тых, каму да апошняга карцела — хай сабе праз міжнародную аславу — сарваць фестываль, зганьбіць ягоных ініцыятараў /ініцыятыва, як вядома, выспявала ў сценах касцёла св.Станіслава/, уцягнуць прэсу ў спрэчкі наконт палітычнай падкладкі свята...

Павучыцца б нам у цывілізаваных калег гаварыць уласна пра мастацтва, а не падпарадкоўваць яго прадмет «палітычным аспектам»! Духоўнае — ад Бога, палітыка ж... Ну, скажам так, задужа зямная з'ява, каб улучаць яе ў хрысціянскія справы.

Дык парадуемся, што хоць на 5 дзён, калі з 13 па 17 ліпеня цараваў у Магілёве фестываль «Магутны Божа», зніклі праблемы міжканфесійных, міжнацыянальных, палітычных стасункаў. Праз музыку, якая робіць нас Людзьмі, спрыяе ўзаемаразуменню паміж незнаёмцамі, а чужых ператварае ў сяброў, — уваходзілі ў сэрца вечныя Вера, Надзея, Любоў. Ці не дзеля гэтага й прыйшоў сюды, на памежжа з чарнобыльскім пеклам, «Магутны Божа» /так і хочацца — без двукосся!/. Прыйшоў, даўшы нам шанц: ачысціць збалелыя душы, умацаваць — змізарнелыя, задзіночыць — самотныя...

Напярэдадні адкрыцця фестывалю горад сустрэў паломнікаў. Амаль 400 чалавек — з Аўстраліі, афрыканскага кантынента, Мадагаскара, Іспаніі, Расіі, Нікарагуа, Венесуэлы, іншых краін свету. Ад Масквы, дзе пачынаўся іхні шлях, паломнікі чыгункай пераехалі ў Смаленск, адтуль рушылі пешкі. Праз тыдзень былі ўжо ў Магілёве, урачыста ўвайшлі ў горад і размясціліся на беразе Дняпра ў наметках.

Вядома, яны йшлі ў Магілёў, каб далучыцца да фестывалю, але была ў гэтай акцыі свая высокая мэта: духоўнае ўдасканаленне пілігрымаў, паглыбленне веры праз штодзённую літургію, падарожныя малітвы, праз індывідуальныя гутаркі са святаром і споведзь, пяянне хрысціянскіх песень, рэлігійныя дыскусіі... Цікава пагартаць дасціпна звярстаную праграму-рэгламент паломніцтва: ягоныя арганізатары прадугледзелі ўсё — ад спісу дробязяў, неабходных для падарожжа, да правілаў «жыцця ў абшчыне». /Забаранялася, напрыклад, ужываць алкаголь, насіць купальныя касцюмы і «выклічна нясціплае адзенне», карыстацца яркай касметыкай, курыць у час пераходу/.

Пагадзіцеся, што без паломніцтва, з яго традыцыямі адзінства і ўзаемадапамогі, стракатая й сакавітая партытура фестывалю істотна страціла б у сваім ідэйным гучанні...

А ўвогуле, хто ўзяўся б размяжоўваць фестывальныя падзеі на галоўныя — і «даважак»? Здаецца, можна было суткамі кружляць вакол іх з уключанай відэакамерай, і ў аб'ектыў не трапіла б нічога другараднага.

Вось уявіце. Зала Палаца школьнікаў, перапоўненая стракатым людам: бабулькі ў хустках, каталіцкія святары, падлеткі, манашкі, маладыя татулі з дзіцянятамі на каленях... А колькі моладзі стаіць уздоўж сцен! /І невядома яшчэ, колькі людзей засталося за дзвярыма/. За сцэнай цікуюць фотакарэспандэнты, радыёрэпарцёры. Аскетычная фестывальная эмблема — стылізаваныя трубы аргана, увянчаныя крыжам, і словы: «Магутны Божа». Адпаведныя пазыўныя. Абаяльная вядучая — Зінаіда Бандарэнка...

Тады, на ўрачыстым адкрыцці фэсту, намеснік старшыні гарвыканкама А.Палішчук, сказаўшы пра брак духоўнасці ў нашым грамадстве, брак веры адно да аднаго, цярпімасці, выказаў і спадзеў, што фестываль паспрыяе нашаму адраджэнню і станаўленню, бо хрысціянства ў аснове сваёй нясе дабрыню і шчодрасць душы, любоў чалавека да Бога і чалавека да чалавека. Дырэктар Музея гісторыі Магілёва І.Пушкін згадаў еўрапейскі радавод Беларусі ды традыцыі паратэатральных дзеяў, шырока распаўсюджаных на землях нашых у 17-18 стст. Хрысціянскія ордэны ўносілі значны ўклад у культуру святаў, галоўным складнікам якіх была, канечне, музыка.

Ёсць дакументальнае сведчанне і вялікага свята падчас каранацыі абраза Маці Божай Бялыніцкай /1761 г./, і доўгага святочнага грання капэлы на вежы падчас урачыстасцей у Магілёве. А гэта значыць, што фестываль «Магутны Божа» не трэба трактаваць як пачатак чагосьці зусім новага й нязнанага — ён абнаўляе і працягвае забытую многімі пакаленнямі традыцыю далучэння людзей праз хрысціянства да сусветнай культуры.



*Юныя скрыпачы з Магілёўскага ліцэя музыкі ды харэаграфіі.*

У канцэрце адкрыцця, як у люстэрку, адбіўся партрэт, скажу так, беларускага савецкага хрысціяніна: з усёй яго пакутлівай мінуўшчынай, эклектычнай самасвядомасцю, падатлівасцю, праз якую столькі страчана, і непахіснасцю, праз якую нямала й захавана. А захаванае — гэта як першая з прыступак, па якіх людзі мусяць ісці да вышынь духоўных, калі хочуць Людзьмі звацца.

Як жа радасна было вітаць надзею нашу — дзетак, хор з Барысава /кіраўнік Л.Мальцэвіч/, пачуць іх кранальны яснагалосы спеў. Як жа расчуліў усіх унісон маленькіх скрыпачоў /і пеюноў!/-магілёўцаў у адмысловых шляхетных строях /кіраўнік ансамбля Н.Гусарэвіч/. Як уразіла шчырая музычнасць юнай піяністкі, навучэнкі Магілёўскага музвучылішча Таццяны Лазуткінай ды мілагучнае сапрана магіляўчанкі Алены Гарбацюк, якая спявала ў суправаджэнні сваіх землякоў — камернага аркестра Ліцэя музыкі ды харэаграфіі /дырыжор У.Родаў/. Сюрпрызам сталася выступленне салістаў магілёўскага бард-клуба Сяргея Кулягіна ды Юрыя Драбышэўскага: хлопцы прэзентавалі прэм'еру песні «Мая Беларусь», спецыяльна да фестывалю напісанай С.Кулягіным.

Колькі сапраўднай радасці, шчырасці, чалавечнасці, свабоды духу было ў тым нязвыклым канцэрце! Людзі свабодна прамаўлялі да Бога, славілі яго ў праваслаўных харавых песняспевах, праз кананічную заходнееўрапейскую класіку, праз бардаўскія рэфлексіі. І ў меладычных рок-абразках з пругкім рытмам ды ўзмоцненым гукам, — як рабіў гэта пратэстанцкі ансамбль з Мінска «Новы Ерусалім». І ў пантаміме: разгорнутую музычна-пластычную кампазіцыю паказаў ансамбль з польскага горада Глогува, увасобіўшы, як я зразумела, думку пра тое, што чалавек ёсць поле вечнай бітвы Бога з д'яблам, але калі чалавек — з Богам і не здраджвае Яму, то д'ябал робіцца бяссільны.

Пэўна, толькі фарысей асудзіць веруючую моладзь за тое, што яна гэтак гучна размаўляе з Богам. А з твараў пажылых ксяндзоў, што сядзелі ў зале непадалёк ад мяне, не сыходзіла ўсцешнасць, яны разпораз далучаліся да рытмічных воплескаў, якімі публіка горача падтрымлівала выступленні ансамбляў. Нават польскай групы «Спэс», удзельнікі якой — будучыя ксяндзы, сур'ёзныя хлопцы ў чорных сутанах, з гітарамі ды хрысціянскімі песнямі ў стылі фолк-рок...

Апладзіравалі ў той вечар і чальцам журы — Віктару Скорабагатаву ды Ганне Каржанеўскай, якія выканалі вядомую ў славянскім свеце 125-ю псальму з «Псалтыры рыфматворнай» С.Полацкага ды «Гімн да Пана Ісуса Хрыста» С.Манюшкі /вершы У.Сыракомлі ў перакладзе У.Мархеля/. А старшыня журы прафесар Віктар Роўда сваім з'яўленнем на сцэне адзначыў кульмінацыйны пункт першага фестывальнага вечара. Зірнуў у залу — і людзі адказалі на яго дырыжорскі знак стройным шматгалосным пяяннем гімнамалітвы М.Равенскага «Магутны Божа».

Аб'яднаны хор з беларускіх калектываў вёў за сабою ўсіх, каму хацелася падтрымаць гэтую высакародную песню. У тыя хвіліны я таксама пачувалася голасам вялікага хору; поруч са мною стаяла прафесійная спявачка Вольга Мікалаеўна Аляксеенка-Равенская, дачка знанага кампазітара, ганаровая госця фестывалю; акурат насупраць — як маяк над хвалямі музыкі — узвышалася постаць маэстра; словы гімна, страфа за страфою, успаміналіся нейк самі сабой, хоць ніколі не вывучвала іх.

Людзі з няблізкага ды блізкага замежжа /як, пэўна, і самі беларусы/ зрабілі для сябе напрыканцы таго вечара нейкае важнае і глыбіннае адкрыццё...

Што было потым? Працягваўся фестываль, распавесці пра які слоў, можа, і хопіць, а вось паперы — наўрад. І хоць мне імпануе мудрасць Ава Пімена: «Мова недастатковая для выкладання тых добрасцяў, якія нараджаюцца ад маўчання», — зусім ужо маўчаць не дазваляе прафесійны абавязак.

А тут яшчэ і ўражанні ад Магілёва, у які не наведвалася некалькі гадоў... Хто скажа «пераваротлівасць лёсу», а хто — «промысел Божы», угледзеўшы ў ягоным абліччы такі вось нюанс.

Архітэктурнай і ў пэўным сэнсе духоўнай адметнасцю гарадскога цэнтра быў не так даўно стары тэатр. Праз вулку ад гэтага прыгожага гістарычнага будынка туліўся ў жылым двары культавы гмах незразумелай канфесійнай прыроды, са знявечанай «галавою» ды ашмарганымі сценамі. Тыповы помнік ваяўнічаму атэізму, ён, здаецца, быў асуджаны на канчатковае разбурэнне. Ну, а тэатру, узброенаму рэкламнымі шчытамі з назвамі «Пасткі», «Шынкаркі» ды савецкіх сцэнічных шлягераў, гарантавалася абараназдольнасць з відам на бязбеднае жыццё. Аднак за жыццё тэатра неўзабаве давялося культурнай грамадзе, як вядома, пазмагацца. Сёння ён ачуньвае, але ўсё яшчэ нагадвае хворага пад кропельніцаю: закуты рэстаўрацыйнымі рыштаваннямі... А насупраць, сярод жылых дамоў, бялее велічны касцёл. Цудоўнае ператварэнне старажытных святых муроў, якія воляю рэвалюцыйных навальніц ды ідэйных баталій зрабіліся на доўгія гады чымсьці накшталт гарадской адрыны.

Гораду вернуты Храм. 13 ліпеня 1990 г. /звярніце ўвагу на дату/ адбылася ўрачыстасць перадачы вернікам касцёла ў імя Спачыну Божае Маці, больш вядомага як Станіславаўскі. Храм вяртае гораду веру, духоўнасць. У касцёле св.Станіслава і нарадзілася адраджэнская па сутнасці, аб'ядноўчая ідэя хрысціянскага музычнага свята.

Дырэктар фестывалю ксёндз Роман Факсінскі да нядаўняга часу працаваў у гэтым касцёле, цяпер служыць настаяцелем прыходу св.Пятра і Паўла ў Бабруйску. Мы мелі размовы і пра фестываль, і пра духоўны стан грамадства. Занатаванае скампанавалася ў своеасаблівы маналог кс.Рамана:

— Вялікую праблему я бачу ў тым, што сённяшняя моладзь прадастаўленая сама сабе. Дарослым трэба было б не толькі працаваць і займацца сваімі клопатамі, а і знаходзіць час, каб слухаць моладзь. Наш фестываль — і для няверуючай моладзі /у якой ёсць шмат добрага/, і для ўсіх хрысціян. Калі я працаваў у Польшчы, дык даводзілася бываць на еўрапейскіх фестывалях, сапраўды рознаканфесійных, дзе сустракаліся і маскоўскі бацюшка, і англікане, і пратэстанты, і каталіцкія ксяндзы. Праз такія сустрэчы дасягалася адзінства, бо можна было бачыць, што ў нас усіх, людзей розных нацыянальнасцей і рознага веравызнання, — адны і тыя праблемы. І рабілася зразумелым, што Еўропа — гэта Еўропа, адзіны дом, які нельга дзяліць на Еўропу ўсходнюю і Еўропу заходнюю, бо нельга, як гаварыў Папа Рымскі, дыхаць толькі адным лёгкім...

Я хачу слухаць моладзь, бо хачу ведаць, што яна адчувае, чаго шукае. Дарослыя таксама шукаюць ісціну. І трэба, каб два пакаленні супрацоўнічалі, ладзілі. Каб дом быў домам, а не «гасцініцай», дзе мама-тата хоць і з'яўляюцца пасля работы, але дзеці жывуць сваім, асобным ад іх жыццём. Сэрцы людзей павінны быць адкрытыя на кожнага чалавека, і ў сям'і, як і ў свеце, павінны быць любоў і кампрамісы: інакш не будзе ні міру, ні сям'і.

Вера, Надзея, Любоў нясуць радасць. Галоўнае не тое, каб танцаваць і пляскаць у ладкі: такая радасць не будзе адчувацца доўга. Трэба, каб пачуццё радасці выходзіла з глыбіні сэрца. Як мяняецца надвор'е, так і ў жыцці чалавека бываюць розныя дні, але трэба навучыцца слухаць сваю душу і зважаць не на тое, што, можа, падабаецца сёння многім людзям, а на тое, што кажа сумленне.

На Захадзе лічаць: трэба так гадаваць дзяцей, каб у іх не было стрэсаў. Гэта памылковае меркаванне. Дзяцей трэба выхоўваць так, каб яны былі гатовыя да стрэсаў і маглі іх пераадольваць — з верaю ў Бога і свае сілы...

Адзін прафесар казаў, што не паважае музыку, якую выконваюць прафесійна бездакорна, быццам у запісе, калі ў ёй не адчуваецца вера, глыбіня, таямніца. Але я бачу добро ва ўсялякай музыцы і лічу, што той, хто любіць музыку, у глыбіні чалавек добры. Значыць, мы можам духоўныя праблемы вырашаць разам. Мы, каталікі, не

хацелі быць гаспадарамі фестывалю «Магутны Божа», мы проста выказалі прапанову, спадзеючыся на дыялог. Бо, напрыклад, у Польшчы касцёл адкрыты для ўсіх канфесій, там ёсць аснова — вера ў Бога, або вера ў добрае, і на гэтым узроўні — веры ў добрае — можна гаварыць нават з людзьмі няверуючымі. Мы адкрыта гаворым, што ісціна, або «кавалачак» яе, ёсць у кожнай рэлігіі. Кожны піша свой абраз Бога, кожны мае сваё разуменне Бога. Розныя цэрквы павінны заставацца кожная сабою, як браты й сёстры ў адной сям'і. А вось адзінства паміж імі ствараецца любоўю. Ды і людзі няверуючыя павінны бачыць правы вернікаў і наадварот, інакш — таталітарызм...

Важныя не ўсе людзі наогул, а кожны чалавек, вось чаму трэба глядзець вакол сябе. І для ксяндзоў на Беларусі важна бачыць ментальнасць, гісторыю і культуру народа, які зусім не падобны, скажам, да суседзяў-палякаў. Я паляк і люблю сваю айчыну, але люблю і Беларусь, бо жыву сярод яе людзей. Папа Рымскі сказаў, што Італія для яго — бацькаўшчына, вось так і для мяне — Беларусь, куды я прыехаў рабіць дабро для людзей, а не рабіць з іх рабоў касцёла.

Ёсць рознасць поглядаў на нейкія канкрэтныя рэчы, але над намі, людзьмі, адзін Бог. Чалавек, засяроджаны толькі на сабе, не бачыць іншых, і калі кожны замкнецца ў сваіх святых мурах, не будзе еднасці і паразумення. Вось чаму наш фестываль заклікае да еднасці ўсіх рэлігійных канфесій як асновы міру...

Штораніцы ў касцёле спраўлялася набажэнства, разам з тым было дазволена і пратэстанцкай моладзі з гітарамі славіць Ісуса ў гучных радасных песняспевах. Потым пачыналіся канцэртныя праграмы, якія за адным разам былі й конкурснымі праслухоўваннямі. Публікі збіралася багата, і воплескаў яна не шкадавала.

Атмасфера храма давала сапраўдную духоўную падтрымку: сакральныя /пакуль нешматлікія, бо ідзе рэстаўрацыя інтэр'ера/ атрыбуты; «аксамітная», за кошт адмысловых рыштаванняў, акустыка; старажытныя, вызваленыя з-пад варварскага малярства, фрэскі, увянчаныя ўжо аднаўленым у свежых фарбах фрагментам роспісу на столі; выява над хорамі натхняльнага музычнага сюжэта — арханёлы з трубамі ды арганамі...

Тут цудоўна гучалі галасы мужчынскага камернага хору «Унія» пад кіраўніцтвам К.Насаева, і спеў полацкага калектыву пад кіраўніцтвам Л.Жукавай, і сола М.Васілевіч з Мінскім абласным камерным хорам пад кіраўніцтвам А.Шута /Маладзечна/, і «Сонейка» на чале з Н.Жураўленкай, і незямное сапрана І.Яськовай у дуэце з арганістам У.Неўдахам /Беларуская каталіцкая грамада/...

Дарэчы, Беларуская каталіцкая грамада сталася адным з актыўных чыннікаў фестывалю, падтрымаўшы прапанову кс.Уладзіслава Бліна, пробашча касцёла св.Станіслава, наконт яго правядзення. Дый назву святу — «Магутны Божа» — даў не хто іншы, як старшыня БКГ Фелікс Янушкевіч. Дзеячы БКГ выдалі падрыхтаваны У.Неўдахам зборнік беларускіх касцельных песень /на старонках «ЛіМа» ён быў прадстаўлены/, другую за гэты год кніжку «Хрысціянскай думкі» /значная частка нумара прысвечана Магілёву: публікацыі з тамтэйшай гісторыі каталіцтва, пра нядзельную школку ў касцёле, інтэрв'ю А.Бяляцкага з кс.Блінам, чые бацькі, між іншым, паходзілі з Беларусі, а шматлікія сваякі жывуць тут і дасюль/. І яшчэ адно выданне БКГ, якое можна было набыць на фестывалі, — афішны плакат свята з адлюстраваннем той самай «музычнай» касцельнай фрэскі.

На сустрэчы з журналістамі Ф.Янушкевіч нямала расказаў пра храм і яго рэстаўрацыю, да якой мае непасрэднае дачыненне. Сіламі мастакоў-грамадоўцаў паводле праекта, прапанаванага А.Пушкіным, менш чым за год зроблена ўжо больш як палова рэстаўрацыйнай працы, упарадкавана тэрыторыя ля касцёла. Галоўны плён — з-пад напластавання алейнай фарбы вызвалены сотні квадратных метраў фрэсак, па майстэрстве не горшых за роспісы сусветна вядомых італьянскіх сабораў. Паводле слоў Ф.Янушкевіча, сёння на Беларусі няма аўтэнтычнага помніка, роўнага Станіслаўскаму касцёлу, у фрэсках якога выразна адчуваецца дух беларускага мастацтва, нацыянальная ментальнасць. У ніжнім шэрагу фрэсак 1767 г. знойдзены подпісы мастакоў — Ёсэ і Давід. Характар жывапісу, тыпажы намаляваных людзей маюць рысы беларускасці, выяўленыя і прыкметы уніяцтва /выява крыжа Ярылы, напрыклад/. Гісторыя ж з'яўлення ў храме абраза Маці Божай Бялыніцкай нагадвае легенду.

Абраз гэты, 16-ты па ліку з 27 вядомых каранаваных абразоў, лічыцца згубленым, існуюць толькі ягоныя копіі. Калі пачалася рэстаўрацыя, незнаёмая бабулька прынесла ў храм скрутак са святым палатном і знікла. Мастацтвазнаўчая экспертыза яшчэ наперадзе, і не выключана, што бабульчын дарунак можа аказацца страчаным іспікам, а калі копіяй, дык найбольш да яго набліжанай. На гэта выдае невялікі памер палатна, бо ўсе вядомыя перапісаныя выявы Маці Божай Бялыніцкай павялічаныя ў маштабе параўнальна з арыгіналам.

Касцёл, апроч усяго, быў інфармацыйным цэнтрам фестывалю. А канцэрты праходзілі, нягледзячы на дакучлівы дождж, нават на вуліцах. І, зразумела, у гарадскіх залах. У ліцэі музыкі ды харэаграфіі, які прыемна ўразіў дыхтоўнасцю будынка, высакароднай неказёнасцю інтэр'ераў, вясёлымі габеленамі, вітражамі, насценным жывапісам, — натуральна гучалі творы Баха ды Вівальдзі, пранікнёныя спевы парафіяльных ды школьных калектываў з Барысава, Браслава, Бабруйска, польскага горада Канстанціна...

Выступленні беларускіх бардаў, негрыцянскія малітоўныя спірычуэлс у выкананні ансамбля «Крэда» з Вінніцы, пратэстанцкі «рок» музыкантаў «Новага Ерусаліма» /Мінск/, кампазіцыі ў стылі кантры, якімі вылучыўся «Бялы квят» з Польшчы, — у такім духу праходзілі вечары ў Палацы культуры камбіната шоўкавых тканін /КШТ/. Строгае акадэмічнае журы апынявалася ў атмасферы... маладзёжнай эстраднай тусоўкі, але атмасферы, пазначанай чыстымі, добрымі пачуццямі, узлётам шчырай веры.

Пасля такога канцэрта наша невялікая журналісцкая кампанія, каб дабрацца з КШТ да цэнтра горада, мусіла прысуседзіцца да групы палякаў, якія прыехалі ў Магілёў сваім аўтобусам. Нам нават парадаваліся, прапанавалі свабодныя крэслы ў салоне, пачаставалі булкамі, вадзіцель пачаў распавядаць пра сваю вандроўку ў Італію і тамтэйшыя прысмакі... Але ехаць ніхто яўна не спяшаўся. Мы пачалі было падумваць пра рэйсавы транспарт, і тут убачылі праз вокны астатніх пасажыраў, якія тоўпіліся ля палаца. Раптам яны, пабраўшыся за рукі, пайшлі... у паланезе! Будучыя святары ды пачцівыя ксяндзы, усмешлівыя манашкі ды «джынсавыя» хлопцы. Цырымонны танец змяніўся таварыскім карагодам, загучала гітара, і ўся гэтая стракатая грамада кінулася ў скокі! Хутка і паехалі. Дарога была вясёлаю: не змаўкалі спевы пад гітару.

І рабілася добра на сэрцы: якая чыстая, харошая, здаровая моладзь! Здаровая моладзь — здаровая нацыя, здаровая нацыя — здаровая краіна, здаровая краіна — здаровы й мірны свет вакол яе. І рабілася смутна: ці многа ў нашым краі дзяўчат і хлопцаў, якія вось гэтаксама проста і шчыра маглі б самі сабе зрабіць свята, атуляючы радасцю ўсіх, хто побач, і каб дзеля гэтага не трэба было «падаграваццa» з бутэлькі, прыпальваць цыгарку...

Пазней даведалася, што ўся гэтая вясёлая грамада з Глогува, каб здабыць грошы для паездкі, працавала на будаўніцтве агароджы для шахтаў. І яшчэ даведалася, што ў Магілёў на 20 дзён выправіўся інтэрнацыянальны атрад студэнцкай моладзі з краін Заходняй Еўропы ды Канады, каб удзельнічаць — бясплатна — у працы па рэстаўрацыі касцёла св.Станіслава.

Вядома, прыцягнуў фестываль чыстыя маладыя сілы не толькі з замежжа. Нават у нашым будзённым, заклапочаным, знерваваным натоўпе адшукае позірк добрыя маладыя вочы. А ў хрысціянскім асяроддзі — тым больш. Радасна было бачыць прасветленыя, адухоўленыя твары дзяўчат і хлопцаў, якія суправаджаюць набажэнствы ў мінскім касцёле св.Роха, або зараджацца ўсмешкай ад брацтва музыкаў «Новага Ерусаліма», натхнёнасцю яго гітарыста І.Капылова...

Але ж такіх у нас пакуль — адзінкі. Асабліва гэта адчулася ў перадапошні вечар, калі на пляцоўцы каля касцёла праходзіў жартоўна-імправізаваны міжнародны конкурс хрысціянскай авангарднай песні. Было гэта ля прыгожага, з рыжымі іскрынкамі на фоне густасіняга неба, фестывальнага вогнішча, абстаўленага шэрагамі касцельных лавак. Запаліў агонь доктар, прафесар Г.Ё.Сабковяк, святар з Германіі, які прывёз у Магілёў партыю гуманітарнай дапамогі з пажаданнем, «каб Пан Бог дапамог ачысціць Беларусь ад чарнобыльскага зла». Вядучыя вечарыны вялі гаворку на дзвюх мовах: польскай ды беларускай, з узаемным перакладам. Дынамічна чаргаваліся выступленні выканаўцаў, пераважна непрафесійнікаў, змянялі адна адну песні германская, руская, венесуэльская, польская, украінская, беларуская. Спевы перамяжаліся скокамі вакол вогнішча. На заканчэнне была малітва, агульная для ўсіх, знаёмая ўсім хрысціянам: «Ойча наш». І кожны, як заклікаў да гэтага кс.Блін, прамаўляў яе ціха па-свойму. А пасля малітвы, калі разыходзіліся людзі з маленькімі дзецьмі ды прытомленыя пажылыя, моладзь закружылася ў карагодзе, і завадатарамі былі польскія госці.

Актыўнасць суседзяў з Польшчы зразумелая: гэта моладзь з моцнымі хрысціянскімі традыцыямі, з вопытам аналагічных фестываляў. Як расказваў кс.Ян Палюсінскі з

*(Працяг на стар. 12)*



*Мінскі мужчынскі камерны хор «Унія».*



*Пантаміма з горада Глогува /Польшча/.*



*У лагеры пілігрымаў.*



*Удзельнікі польскага ансамбля «Спэс».*



*Ля касцёла, пасля набажэнства.*

**— Бібліятэкі нашай рэспублікі і раней не былі распешчаны ўвагай грамадства, а зараз — тым больш. Тым не менш тое ж грамадства пачынае сёння разумець іх неабходнасць, а ў нечым нават і незаменнасць. Сведчаннем такой увагі стаў чарговы пленум Беларускага фонду культуры, у парадку дня якога галоўным пунктам значылася: «Бібліятэка — асяродак нацыянальнай культуры»...**

— Менавіта напярэдадні пленума, на чарговым пасяджэнні прэзідыума праўлення фонду культуры, былі зацверджаны вынікі першага рэспубліканскага конкурсу сярод сельскіх, гарадскіх, абласных, дзіцячых, школьных і навуковых бібліятэк Беларусі. Арганізаваў яго савет садзейнічання бібліятэчнай справе, які актыўна дзейнічае пры фондзе. Гэта таксама доказ увагі да нашых праблем.

чым дастаткова, бо статыстычныя паказчыкі былі супакойваючымі. Па назвах яны складалі 17-18, а па асобніках — да 30 працэнтаў ад усяго фонду. Яшчэ адным аргументам нібыта перанасычанасці фондаў беларускімі выданнямі была нізкая эфектыўнасць іх выкарыстання — каля 12 працэнтаў.

**— А як зараз можна ацаніць фонды бібліятэк? Згадзіцеся, на агульную думку, працэс адраджэння нацыянальнай культуры ідзе пакутліва і марудна.**

— *Згодна.* Змены ў вучэбных праграмах школ і іншых навучальных устаноў, некаторая гуманітарызацыя навучання сталі паказчыкамі нязадольнасці бібліятэк забяспечыць патрэбу ў інфармацыі па пытаннях нацыянальнай культуры. І не дзіва — колькі дзесяцігоддзяў з іх фондаў старанна выкарчоўваліся творы, якія не адпавядалі

**нацыянальнага фонду галоўнай бібліятэкі Беларусі, менавіта беларускіх выданняў?**

— Гэты фонд складае сёння 500000 адзінак. Збіраўся ён з першых дзён заснавання бібліятэкі, мае велізарную навуковую і культурную каштоўнасць. Ён абавязкова павінен грунтавацца па прынцыпе: хоць адзіны экземпляр, але патрэбна захаваць. Асобныя лакуны ў ім узніклі ў выніку разрабавання ў часы Вялікай Айчыннай вайны. Зараз мы прыкладаем усе намаганні, каб ліквідаваць іх.

Зусім недаравальна, тым больш у нашы дні, ды пры наяўнасці пастановы Савета Міністраў пра абавязковыя асобнікі /N 499 ад 29.12.1991 г./, што няма паўнаты галоўнага фонду і гарантый на далейшае яго папаўненне. Дарэчы, рыхтуецца праект новай пастановы.

**— Чаму? Мабыць, прыватныя і**

— Безумоўна. Шматлікія ахвяраванні беларусаў замежжа часам асядаюць у прыватных калекцыях замест таго, каб стаць агульнанацыянальным здабыткам. Супрацоўнікі бібліятэк практычна не маюць магчымасці выязджаць за мяжу для ўстанаўлення кантактаў па набыцці патрэбных выданняў. Нават суправаджэнне выстаў кніг чамусьці даручаецца чыноўнікам, а не тым, хто іх лепш ведае і захоўвае.

**— Праблема захавання помнікаў кніжнай культуры таксама застаецца нявырашанай? Беларусь за сваю гісторыю беззваротна страціла шмат культурных каштоўнасцяў, у тым ліку і кніжных, не толькі па волі лёсу, не толькі ў гады войнаў. Колькі іх аддадзена самімі беларусамі па простай недальнабачнасці?!**

— Сёння неабходна зберагчы,

# А КОЖНЫ ДРУКАВАНЫ РАДОК — ГІСТОРЫЯ

З ДЫРЭКТАРАМ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ БІБЛІЯТЭКІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ, ЧЛЕНАМ ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ФОНДУ КУЛЬТУРЫ ГАЛІНАЙ АЛЕЙНІК ГУТАРЫЦЬ ЖУРНАЛІСТКА ВАЛЯНЦІНА КУДРАЎЦАВА

**— Іх, вядома, шмат. Зразумела і тое, што ніякія радыкальныя рэформы немагчыма сёння праводзіць, калі не будзе ісці актыўны працэс адраджэння нацыі, калі не будзе знойдзены адпаведны ўзровень інфармацыйнага забеспячэння грамадства. І не толькі. Зараз ад бібліятэкараў, як ніколі, патрабуецца аналагічная работа па асэнсаванні нявыкарыстаных магчымасцей. Пэўна, трэба больш актыўна вучыцца працаваць у новых умовах, выпрацоўваць новы стыль мыслення, працы і, наогул, адносін да жыцця? Як бы вы, Галіна Мікалаеўна, вызначылі сучасныя задачы бібліятэк па пераўтварэнні іх у сапраўдныя асяродкі нацыянальнай культуры?**

— Давайце яшчэ раз азірнёмся ў недалёкае мінулае, нагадаем, якой была бібліятэка ўчора.

Многім добра вядомы тэзіс: «Бібліятэкі — апорныя базы партыйных арганізацый». Ён, на жаль, вызначаў асноўную сутнасць дзейнасці бібліятэк, а таму ў якасці важнейшай функцыі вылучаў ідэалагічную. Бібліятэкі былі адным з калёсікаў велізарнай ідэалагічнай машыны, якая маніпулявала грамадскай свядомасцю. Такая заідэалагізаванасць дзейнасці бібліятэк не магла не адбіцца на аўтарытэце кніжных скарбніц, на адносінах з чытачамі. Лічбы сведчаць: з 1985 па 1990 гады мы страцілі 500000 чытачоў!

**— Адпаведна вялося і фарміраванне фондаў?**

— Нацыянальная бібліятэка Беларусі правяла шэраг мерапрыемстваў па вывучэнні бібліятэк розных узроўняў і накірункаў. Вынік? Літаратура грамадска-палітычнай тэматыкі складала звыш паловы ад галіновай літаратуры або 18—25 працэнтаў ад агульнага фонду.

**— Калі мы перайшлі на мову лічбаў, то тады наступнае пытанне: якімі працэнтамі вылучаліся беларускамоўныя выданні?**

— Ведаеце, панавала думка, што іх больш

афіцыйнай ідэалогіі, а іх аўтары лічыліся ворагамі народа. На самай жа справе яны — яго гордасць! Толькі дзякуючы наяўнасці спецфондаў /як ні парадаксальна гучыць/, зараз мы маем магчымасць перавыдаць гэтыя кнігі. Са спецфонду нашай бібліятэкі, які практычна расфарміраваны, у агульнадаступныя фонды перададзена каля 50000 адзінак захоўвання /на нашай прафесійнай мове/, у тым ліку 2000 беларускіх выданняў.

**— Галіна Мікалаеўна, звяртаюцца да вас выдавецтвы з просьбай набыць для перавыдання асобныя творы?**

— Звяртаюцца пастаянна і заўсёды атрымліваюць нашу дапамогу. За апошнія гады ў рэспубліцы перавыдадзены творы Сымона Баранавых, Алеся Гаруна, Максіма Гарэцкага, Цішкі Гартнага, Ларысы Геніюш, Андрэя Мрыя і іншых. Калі ўлічыць, што напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны у Саюзе пісьменнікаў Беларусі засталося 40 чалавек з 200, няцяжка ўявіць, колькі спатрэбіцца гадоў, каб пазнаёміць чытача з тым пластом літаратуры 20—30 гадоў, які імкнуліся выкрасліць з памяці народа. Крыху выратоўваюць становішча літаратурныя часопісы, але і гэтага недастаткова. Патрэбны ўвага і падтрымка дзяржавы.

Мы далі прапановы Міністэрству інфармацыі аб перавыданні шэрагу твораў. 6 з іх уключаны ў план 1993 года. Гэта кнігі У.Арлова «Дзень, калі ўпала страла», Л.Дайнекі «Меч князя Вячкі», У.Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім», А.Клышкі «Ф.Скарына, або Як да нас прыйшла кніга», А.Мальдзіса «Падарожжа ў XIX стагоддзе», К.Тарасава «Памяць пра легенды». У адпаведнасці з аналізам, які праводзіла наша бібліятэка, на кожную з іх сабраны заказ не менш за 12 тысяч асобнікаў.

Аднак па-ранейшаму не хапае дзіцячай літаратуры для маленькіх, асабліва кніг пра народныя святы, тых, дзе вядзецца гаворка аб музыцы, скульптуры, балеце, кіно.

**— Калі ж глыбей закрануць праблему кааператыўных выдавецтваў, якія ў апошні час шырока разгарнулі сваю дзейнасць, не жадаюць выконваць свае абавязкі перад дзяржавай?**

— Кожны друкаваны радок сёння — гэта гісторыя. Гэта — адлюстраванне ўсяго спектра поглядаў, плыняў, рухаў, стану і ў рэшце рэшт — агульнай культуры нацыі. Ні прыватныя, ні кааператыўныя выдавецтвы не лічаць неабходным дасылаць на наш адрас абавязковы асобнік з тыражу сваіх выданняў. І няма на іх ніякай управы! Неабходна адладзіць механізм дзеяння пастановы Саўміна Беларусі і прымяняць санкцыі за яго парушэнне. Тычыцца гэта не толькі нашай бібліятэкі, але і Урадавай, галіновых навуковых і абласных.

**— Штосьці для вырашэння праблем робіцца?**

— Так, Міністэрства інфармацыі дасылае нам пералік зарэгістраваных выдавецтваў, а таксама тых, якія страцілі права выдавецкай дзейнасці. Але ж трэба вырашаць пытанне комплексна!

**— Нацыянальная спадчына беларускага народа, у тым ліку друкаваная, ствараецца не толькі на Беларусі, а і беларусамі, якія воляю лёсу былі раскіданы па ўсім свеце. Яны таксама выпускалі газеты, часопісы, зборнікі, манаграфіі — жылі жыццём Бацькаўшчыны. Як вядзецца збор гэтых каштоўнасцяў?**

— Навуковыя бібліятэкі і наша, галоўная, заўсёды імкнуліся сабраць і вярнуць друкаваную спадчыну замежжа. Сёння з'явілся крыху большыя магчымасці для яе вяртання. Усім вядома, што цяпер амаль без перашкод нашы землякі прыязджаюць на зямлю сваіх бацькоў, часцей выязджаюць беларусы за мяжу. Сярод іх — навукоўцы, дзеячы культуры і мастацтва, народныя майстры розных профіляў. Такім чынам, устаноўлены больш цесныя сувязі з беларускімі суполкамі розных краін, з асобнымі дзеячамі.

**— Тым не менш, складанасці і тут існуюць?**

арганізаваць рэстаўрацыю таго, што маем, каб перадаць спадчыну нашчадкам. Гэтай вялікай справе мог бы паспрыяць закон «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны». Ён — юрыдычная база для распрацоўкі нацыянальнай праграмы фарміравання, захавання і выкарыстання кніжных помнікаў гісторыі і культуры. У ім прадугледжаны меры па зборы, рэстаўрацыі кніжных помнікаў, падрыхтоўцы спецыялістаў і шмат іншага. Вядучымі бібліятэкамі Беларусі падрыхтаваны канкрэтныя прапановы да такой праграмы, але пакуль, на вялікі жаль, і гэты закон не дзейнічае.

**— Пэўная рыса ў набыцці бібліятэкамі нацыянальнага аблічча — прысваенне ім імёнаў дзеячаў гісторыі ці культуры, біяграфія якіх звязана з куточкам роднай мясціны, з дзяцінствам, з першай у жыцці бібліятэкай.**

— І ў гэтай справе склалася парадаксальная сітуацыя. З 14000 бібліятэк, у тым ліку звыш 5000 публічных, імёны носяць крыху больш за 90. І з іх толькі трэць — беларускіх дзеячаў. Затое 9 бібліятэк маюць імя А.С.Пушкіна, 7 — Н.К.Крупскай, 5 /было 6/ — А.М.Горкага, 6 — А.П.Гайдара, 3 /было 4/ — У.І.Леніна.

**— У апошні час становішча пачало крыху мяняцца: Полацкай цэнтральнай гарадской бібліятэцы прысвоена імя Францішка Скарыны. Верхнядзвінскай гарадской бібліятэцы — імя Тараса Хадкевіча, Пружанскай раённай — імя Міколы Засіма, Козінскай сельскай бібліятэцы Браслаўскага раёна — Пятра Сергіевіча, Горацкай раённай — Максіма Гарэцкага.**

— Гэта толькі першыя крокі. Упэўнена, што ў бліжэйшы час розныя бібліятэкі рэспублікі знойдуць імёны землякоў, выдатных беларускіх пісьменнікаў Платона Галавача, Цішкі Гартнага, Пятра Глебкі, Кастуся Кірэенкі, Аркадзя Куляшова.

**— Бібліятэчныя фонды складаюць не толькі традыцыйныя друкаваныя выданні.**

# ВАЛЯ

*(Пачатак на стар. 8)*

скажу сваё горачка, — сказала яна мне аднойчы з плачам. — Прагаварыла я Валіну долю. Думала абы-што, баялася абы-чаго, вось яно і здарылася. Лэдзі мая, як і я, звычайная баба-гаротніца: ён жа, яе муж, і хлус, і круцель, і... яшчэ мо сотню ў яго гэтых «і»... Божа, як я падманулася! Як вінаватая, што параіла Валі выходзіць замуж якраз за яго! Ёй патрэбен не шалапут, а такі паважны, як ты!..»

«Каму падабаюцца спакойныя, а каму — дзёрзкія», — пачаў на іншае зводзіць гамонку я.

«Пажылы ўжо, ведаю: бывае, той, хто нібы спакойны, на самай справе натурысты, упарты і нудотны. Але ты, Алесь, па-добраму паважны. За табой жонка, мабыць, як за сцяной. Калі разумная, дык павінна любіць і берагчы як скарб».

«Ты, Клара, так ужо хваліш мяне, што я нібы нейкі ўзорны».

«Я, Алесь, нутром адчуваю мужчын. Мела мужа, а потым, як ведаеш, аднаго бадзягу-начніка, дык нагледзелася. Добрыя мужчыны бываюць рэдка і трапляюць часамі не самым лепшым, бываюць не зусім шчаслівыя. А што да дзёрзкіх, дык яна, гэтая бойкасць, розная бывае. У майго зяцька ягоная рызыка — дурната... Збэрсаў толькі маёй дзеўчыне жыццё...»

«Пасядзіць, хлебане ліха — можа, адумаецца, ачалавечыцца».

«Толькі не ён, Алесь. Там ён яшчэ абы-якіх звычак набярэцца, болей на горшае перакруціцца... Ён у душы нягоднік, вырадак нейкі, хоць умее таіцца і прыкідвацца анёлам... Кажу ж, нават я, ведаючы мужчын, падманулася, не ўгледзела, што ён толькі на Валіну красу пакваліўся...»

Пачуўшы гэта, пра што не ведаў, але здагадваўся, я ўжо зусім перастаў штосьці разумець пра сябе і Валю: нібы вінаваты перад ёю за яе няўдалае замужняе жыццё, але і ў той жа час, дзе, у чым і за што мая віна?

І вось яшчэ праз некалькі месяцаў планіда зводзіць нас зноў. Улетку, цёплай парою. За горадам, на дачы. Туды сярод тыдня я прыйшоў пазнавата і адразу ўбачыў: у недалёкім Клярыным доміку за зацягнутымі шторамі святло. Значыць, тут Валя з дзіцём, бо яе маці які ўжо час на дачу не ездзіць. Маючы хворае сэрца, тая баіцца адлучацца з горада. Ведаючы, што з маладой дачнай суседкаю ў мяне адны клопаты, я спачатку намераўся не паказвацца ёй на вочы, тым больш у позні час, але пасля перадумаў: назаўтра будзе няёмка, што надоечы не праведаў.

Зайшоў, пастукаў.

— Заходзьце, заходзьце, дзядзька Алесь, — у адказ Валін голас.

Бач, прыгледзела-такі, што я тут, на дачы. Заходжу. У залі адразу кінулася ў вочы каляска, дзе спіць падгадаванае дзіця, і сама Валя — высакаватая, статная, у караткаватым халаціку, з усмешкай у вачах і на вуснах, з новай, мабыць, памякчэлай жаночай красою.

— Добры вечар.

— Добры вечар.

Каб суцішыць хваляванне, што моцна прылівае, нібы вада ў паводку, спрабую жартаваць:

— Ну, пакажы, якая ўжо твая каралеўна?

Падыходжу да каляскі, азіраю дзіцячы мілы тварык, адчуваючы, што Валя пільна сочыць за мной і цешыцца ад таго, што яе дачка мне падабаецца.

— Ой, — лёгка сплёўваю, — якая брыдкая!

Падымаю галаву і, сапраўды, сутыкаюся на чэпкі, але цёплы і радасны позірк, што змушае ажно ўздрыгнуць маё сэрца: на мяне пазірае ўжо не сарамлівае дзяўчо-падлетак, а смелая замужняя жанчына.

— І мамуся зусім брыдкая!..

Гавару якраз вось так, але ніякай зніякавеласці альбо крыўды на Валіным натуральна і молада свежым, без ніякай парфумы твары, усё тая ж ласкавая ўсмешка: канечне ж, чуйным жаночым сэрцам адчувае маё захапленне яе жаноцкасцю і маю мужчынскую ўсхвалявасць. Нейкую хвіліну мы пазіраем вочы ў вочы; я не магу не любавацца ёй, лашчыць позіркам і заадно бянтэжыцца.

Нечакана перахопліваю яе крыху паімкнёны ўвысь, затуманены позірк, паварочваю туды галаву і амаль натыкаюся вачыма на тое, на што вельмі зася-роджана глядзіць Валя, — на выключальнік. Штосьці, сам не ведаю што, проста загадвае мне падняць руку і патушыць святло. Тут жа, у змроку, Валя рашуча ступае, закідвае мне на шыю рукі, быццам жонка прытульваецца і дае вусны.

Яе мяккія далоні пяшчоцяць мне патыліцу, вусны раскрытыя і слодычна цёплыя, пругкія грудзі і ўвесь гібкі стан льнуць усё бліжэй — да мяне імкнецца тая, што жадае быць блізкая са мной. Гарачыня ўспыхвае ў маіх жылах, сэрца гулка б'ецца, а рукі дробна трымцяць на яе плячах.

— І цяпер адштурхняце? — калі адхіляемся вуснамі, але ўсё яшчэ ў абдымку, па-змоўніцку шэпча яна. — За тое, што кахала, кахаю толькі вас аднаго?

Я ўжо сам не свой, пераможаны, усё менш і менш думаю пра тое, што «трэба» і не «трэба», «можна» альбо «нельга», толькі раптоўна ўспомніў адзін перакладны — ці не з амерыканскай літаратуры — раман, які чытаў даўно, можа, яшчэ ў юнацтве. Там пісалася пра добрую, з мяккай душой і тонкімі пачуццямі прыгожую, але нешчаслівую дзяўчыну. Пра многае ўжо забыў, але вось адна думка, мусіць, назаўсёды ўрэзалася ў памяць. Пра жанчын-красунь.

Гэты скарб творыцца ўсім, што ёсць на зямлі і ў паветры, — амаль вось так пісалася ў тым рамане. — Ад усходу і

**Якое месца ў іх займаюць так званыя аўдыёвізуальныя матэрыялы: грампласцінкі, магнітафонныя стужкі, кампакткасеты, дыяфільмы, слайды?**

— Асноўная маса іх у бібліятэках зместам сваім адносіцца да мастацтва. Колькасць невялікая — 1 працэнт ад агульнага фонду. Між іншым, для параўнання, у замежных бібліятэках аналагічны паказчык складае 30 працэнтаў.

У апошнія два гады Нацыянальная бібліятэка Беларусі не толькі папаўняла гэтымі матэрыяламі свае фонды, але і набывала іх для публічных бібліятэк рэспублікі.

**— Якімі шляхамі?**

— Арганізоўвалі закупкі іх у Маскве, рабілі спецзаказы малому прадпрыемству «Трыумф». Інакш ці можна вырашыць праблему адраджэння нацыянальнай культуры? Помнікі яе — асабліва ў выяўленчым мастацтве, архітэктуры — недаступны ў цяперашні час значнай большасці насельніцтва, асабліва тым, хто жыве ў раёнах, якія аддалены ад культурных цэнтраў.

**— Адраджэнню краязнаўчага руху на Беларусі ў значнай меры спрыяў Беларускі фонд культуры. Стварэнне беларускага краязнаўчага таварыства было б немагчыма без актыўнай дзейнасці апантаных энтузіястаў аднайменнай грамадскай камісіі БФК. Ці не здаецца вам, што асяродкам нацыянальнай культуры, са спецыфічнымі, індывідуальнымі рысамі, бібліятэка можа стаць толькі тады, калі будзе далучацца да глыбокага вывучэння роднага краю, удзельнічаць у краязнаўчай рабоце?**

— Наогул, бібліятэчнае краязнаўства з'яўляецца часткай агульнадзяржаўнага. Яго мэта — выявіць, сабраць і даць у карыстанне чытача ўсе друкаваныя і аўдыёвізуальныя матэрыялы, якія маюць дачыненне да той мясцовасці, насельніцтва якой яна абслугоўвае. На жаль, якасны і колькасны склад краязнаўчых фондаў большасці бібліятэк вельмі бедны. Ён амаль цалкам адлюстроўвае толькі савецкі перыяд. Да таго ж пераважаюць у іх выданні аб апошняй вайне, устанаўленні савецкай улады, стварэнні калгасаў — з аднабаковай трактоўкай падзей і праблем. Але вельмі мала або зусім няма матэрыялаў аб больш глыбокай гісторыі, аб старажытнасці, аб нашых каранях, аб паходжанні назваў населеных пунктаў, іншых геаграфічных назвах.

Аднак пачынае мяняцца характар масавых мерапрыемстваў, што праводзяць бібліятэкі. Яны ўсё больш носяць ярка выражаную нацыянальную афарбоўку з краязнаўчым ухілам, аб чым сведчаць іх назвы: «Зямля, адкуль мы родам», «Роднай зямлі галасы», «Чаму мы так гаворым?» і іншыя.

Разам з тым з'явілася нямала новых форм камернага характару, якія разлічаны на чытачоў пэўнай катэгорыі. У асноўным гэта клубы, гурткі, аматарскія аб'яднанні як для дарослых чытачоў, так і для дзяцей. Зноў нагадваю назвы: «Спадчына», «Крыніца», «Бацькаўшчына», «Матчына мова», «Юны краязнаўца», «Верасок».

**— Наколькі я зразумела, цесных сувязей з таварыствам краязнаўцаў няма. А як наладжаны кантакты з фалькларыстамі? Не адзін год пры фондзе культуры плённа працавалі актывісты камісіі па папулярызацыі фальклору...**

— І тут з сувязямі, мабыць, не ўсё добра. Мы разумеем, што асабліває месца ў фондах бібліятэк павінны займаць фальклорныя матэрыялы — паданні, легенды, песні, казкі, прымаўкі, апісанні мясцовых абрадаў, традыцыйных рамёстваў, але іх проста не хапае.

**— Галіна Мікалаеўна, а які ўклад галоўнай бібліятэкі ў стварэнне сістэмы рэтраспектыўнай бібліяграфіі?**

— Тут можна прывесці вялікі пералік усяго, што рабілася і робіцца. Гэта, перш за ўсё, зводны каталог «Кніга Беларусі» — за 400 гадоў кнігадрукавання, «Бібліяграфія па гісторыі Беларусі», «Беларуская літаратура ў музыцы /1918—1989 гг./», «Станаўленне і развіццё рэжысуры ў беларускіх драматычных тэатрах /1841—1970 гг./», «Беларускія пісьменнікі-лаўрэаты».

Пастаянна выдаём метадычныя распрацоўкі для бібліятэк рэспублікі: «Гісторыі таемныя радкі», «З глыбінь вякоў», «Вернутыя імёны», «Нам засталася спадчына». Сёлета выйдзе дапаможнік бібліятэкарам па краязнаўчай рабоце.

Свой уклад робяць і абласныя бібліятэкі — усе яны выдаюць бібліяграфічныя павадыры «Што чытаць пра ... вобласць?». Апрача таго, берасцейцы, напрыклад, падрыхтавалі завочнае падарожжа па вобласці. На Гродзеншчыне выдаецца серыя «Шануем нашых землякоў», на Гомельшчыне — серыя «Лісток беларускага календара». А як не адзначыць дзейнасць Мінскай цэнтралізаванай сістэмы бібліятэк?

**— Па-ранейшаму востра паўстае пытанне аб нашай мове. Авалоданне роднай мовай бібліятэкарамі таксама складаная праблема?**

— Бясспрэчна. Мы прыкладаем усе намаганні для яе вырашэння. На беларускай мове афармлена інфармацыя ў большасці бібліятэк, на родную мову пераведзена справаводства, ёй карыстаюцца пры правядзенні асноўнай масы мерапрыемстваў, на ёй праводзяцца афіцыйныя нарады і пасяджэнні, арганізавана вывучэнне мовы на курсах і ў гуртках. Не стае асноўнага — не заўсёды гучыць мова ў штодзённай практыцы, паміж самімі бібліятэкарамі і чытачамі. Таму часам складваецца ўражанне нейкай штучнасці, ненатуральнасці і нават няшчырасці. Многім не хапае ўласнага пераканання, уласнай патрэбы авалодаць мовай. Паводзіны большасці бібліятэкараў у гэтым сэнсе ў лепшым выпадку нагадваюць добрасумленнае «адпрацоўванне» патрабаванняў. Мяркую, што павінен прайсці нейкі час, павінен адбыцца пералом ва ўсім грамадстве, бо, як мне здаецца, пакуль яшчэ «не прынята» размаўляць па-беларуску ў грамадскіх месцах. Няхай такім месцам найперш стане бібліятэка!

Прадбачу ваша чарговае пытанне: яно будзе пра сувязі з Таварыствам беларускай мовы імя Ф.Скарыны? Адразу даю адказ. Я цалкам згодна з думкай дырэктара Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф.Скарыны, члена прэзідыума праўлення Беларускага фонду культуры Адама Восіпавіча Мальдзіса. Ён выказаў яе на праведзенай у лістападзе мінулага года справаздачна-выбарчай канферэнцыі БФК. Не адзін фонд культуры займаецца пытаннямі культуры, а дзесяткі большых або меншых фондаў. Гэта не столькі радуе, колькі трывожыць, бо ідзе драбленне сіл і сродкаў. Беларускі фонд культуры павінен мець права каардынацыі ўсіх фарміраванняў, што працуюць у гэтай галіне. Дадам: у тым ліку і шматлікіх таварыстваў, аб'яднанняў, згуртаванняў. Аказваць дапамогу ў наладжванні сувязей паміж імі і бібліятэкамі, на мой погляд, таксама павінен адзін з галоўных фондаў рэспублікі — БФК.

**— Як удаецца вам сёння збіраць, перапрацоўваць, назапашваць і арганізоўваць расклад такой вялікай колькасці інфармацыі? У век камп'ютэрызацыі, пэўна, немагчыма захоўваць яе толькі ў папках, картках і дасье?**

— Для вырашэння гэтых задач распрацавана канцэпцыя аўтаматызацыі галіны культуры. Яна ўключае шэраг праектаў і дазваляе выключыць дубліраванне, аб'яднаць намаганні і рэсурсы розных устаноў. На мой погляд, цікавым з'яўляецца праект стварэння базы звестак персаналій грамадскіх і дзяржаўных дзеячаў навукі, культуры, гісторыі, асветы, літаратуры, мастацтва Беларусі.

**— Усплёск нацыянальнай самасвядомасці выклікаў рух па стварэнні этнаграфічных, краязнаўчых, мемарыяльных, мастацкіх музеяў. На Беларусі вядзецца велізарная даследчая і пошукавая работа з мэтай выдання «Кніг памяці». У пошуках экспанатаў і дакументаў творчыя групы звяртаюцца ў рэспубліканскія архівы, музеі, бібліятэкі. Як дапамагаеце вы энтузіястам?**

— Наша бібліятэка літаральна завалена лістамі-просьбамі даслаць выданні з абменна-рэзервовага фонду або зрабіць якую-небудзь копію. Як тут не ўспомніць шырокавядомае выказванне акадэміка Ліхачова аб тым, што калі захаваюцца бібліятэкі, ні народ, ні дзяржава не загінуць. На вялікі жаль, нашы паліграфічныя магчымасці не дазваляюць рабіць копіі ў вялікіх аб'ёмах. Гэта, зразумела, не можа не адбівацца на інтарэсах прыхільнікаў адраджэння нацыянальнай самасвядомасці — нашых чытачах. А памятаем мы пра іх заўсёды!

**— Вынікам 70-гадовага панавання монаідэалогіі з'явілася не толькі уніфікацыя фондаў бібліятэк, зместу іх работы, але і аднатыповасць іх знешняга аблічча, якое часта пазбаўлена як індывідуальнасці, так і нацыянальных рыс. Нічым не адрозніваліся бібліятэкі ў былым Саюзе — ад Брэста да Уладзівастока. Між тым менавіта яны павінны быць носьбітамі нацыянальнай культуры ўжо сваім інтэр'ерам і экстэр'ерам.**

— За апошнія гады, аб чым сведчаць і вынікі конкурсу, шмат бібліятэк набылі сапраўднае нацыянальнае аблічча. Гэта Узденская, Іванаўская, Клімавіцкая раённыя, Мядзельская і Гродзенская гарадскія, Маладзечанская, Асіповіцкая дзіцячыя і іншыя. У іх афармленні шырока выкарыстоўваліся творы і вырабы народных майстроў як традыцыйных для гэтай мясцовасці відаў рамёстваў, так і новых — макрамэ, фларыстыкі, ікебана і іншыя.

Але ж такія бібліятэкі пакуль у меншасці. Патрабуецца тэрміновая падтрымка органаў мясцовай улады, кіраўніцтва культурай, чытачоў, шырокай грамадскасці...

**— Дзякуй вам за змястоўную гутарку. Сумленную, самаадданую працу.**

# Яўген КУРТО



3 жніўня 1993 года на 70-м годзе жыцця памёр вядомы беларускі пісьменнік Яўген Курто.

Яўген Іванавіч Курто нарадзіўся 7 ліпеня 1924 года на хутары Рачыборак Бярэзінскага раёна Мінскай вобласці ў сялянскай сям'і. Сярэднюю адукацыю атрымаў у Багушэвіцкай сярэдняй школе Бярэзінскага раёна.

У час Вялікай Айчыннай вайны ў радах камсамольскага падполля змагаўся з ворагам, з кастрычніка 1943 г. да ліпеня 1944 г. — у партызанах. Быў цяжка паранены.

У 1945 годзе паступіў на аддзяленне журналістыкі Белдзяржуніверсітэта, які скончыў у 1949 г. Працаваў у рэдакцыях газет. З 1960 г. — рэдактар, потым старшы рэдактар выдавецтва «Беларусь». З 1972 г. — старшы рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура».

З першымі творамі ў друку выступіў у 1948 годзе. З-пад яго пяра выйшлі ў свет кнігі апавяданняў для дзяцей «На начлезе», «Шэсць кароткіх гісторый», «Лясны ўрок», «Шумеў Нягневіцкі лес», аповесці «Ён быў піянерам», «Дарога бяжыць насустрач», кнігу аповесцей «Насустрач жыццю» і іншыя.

Яўген Курто прыйшоў у літаратуру з глыбокім веданнем жыцця і з удумлівым стаўленнем да мастацкага слова. Яго творы прасякнуты суровымі рэаліямі, вынесенымі з ліхалецця Вялікай Айчыннай вайны, займальныя для юнага чытача. Многія з іх носяць аўтабіяграфічны характар.

Вядомы чытачу і пераклады Яўгена Іванавіча на беларускую мову казак народаў былога СССР, паасобныя творы К.Чапека, Т.Цырумса, Э.Раўда і іншых.

Светлая памяць пра Яўгена Іванавіча Курто, пісьменніка, чалавека нялёгкага лёсу, шчырага працаўніка на ніве роднай літаратуры назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**Саюз пісьменнікаў Беларусі**

## Наш каляндар

475 гадоў з таго дня, калі Францішак Скарына закончыў у Празе друкаваць шэраг выданняў: «Книги первыи Царьств», «Вторыи...», «Третии...» і «Книги четвертыи Царьств».

●

115 гадоў з дня нараджэння беларускага драматурга, рэжысёра, педагога Еўсцігнея МІРОВІЧА /сапраўднае прозвішча Дунаеў/ спаўняецца 10 жніўня /1878—1952/. Аўтар шэрагу п'ес на рускай мове. Па-беларуску напісаны і пастаўлены «Машэка» /«У часы даўнейшыя»/, «Кастусь Каліноўскі», «Каваль-ваявода», «Запяюць верацёны» і іншыя. У 1957 годзе выйшаў зборнік «П'есы».

●

80 гадоў пастаноўкі ў Радашкавічах Мінскім драматычным гуртком /рэжысёр Ф.Ждановіч/ камедыі Янкі Купалы «Прымакі» спаўняецца 15 жніўня. На прэм'еры прысутнічаў аўтар.

●

30 гадоў назад выдадзены «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы».

●

100 гадоў з дня нараджэння беларускага літаратуразнаўцы Васіля МАЧУЛЬСКАГА спаўняецца 27 жніўня /1893—1973/. Прымаў удзел у падрыхтоўцы Збору твораў М.Багдановіча ў двух тамах /1927—28/. Даследаваў сувязь «Слова пра паход Ігаравы» з беларускім фальклорам.

●

75 гадоў з дня нараджэння крытыка і літаратуразнаўцы Алеся МАКАРЭВІЧА спаўняецца 30 жніўня /1918—1967/. Выдаў кнігі «Сатыра Кандрата Крапівы», «Кароткі літаратуразнаўчы слоўнік», «Ад песень і думак народных». Пасля смерці аўтара выйшлі «Фальклорныя матывы ў драматургіі Янкі Купалы» /1969/. Адзін з аўтараў дапаможнікаў для студэнтаў «Беларуская дзіцячая літаратура» і «Беларуская вуснапаэтычная творчасць».

---

заходу сонца, што бываюць кожны дзень, кожны год і стагоддзі за стагоддзямі. Ад высокага ці нізкага, блакітнага з белымі кучмамі альбо цяжка захмаранага неба, ад белага снегу, моцных маразоў і віхурыстых мяцеліц, ад першых праталін, вясёлых ручайкоў і першых кветак. Ад высокай духмянай травы, над якой лётаюць пчолы і матылі. Ад яблыневага цвету, ад шматфарбнасці, скажам, руж, што цешаць вока рознымі колерамі і прыносяць лёгкі смутак, калі адцвітаюць і ападаюць пялёсткамі. Ад дажджу, грому, бліскавіц і вясёлкі над зямлёй, ад пладоў, што наліваюцца і цукравеюць, ад першай жаўцізны ў прыродзе. Ад спёкі альбо ценю ў густым сырым лесе, ад холаду ды заміранія ўсяго жывога перад зімою, ад ясных альбо, наадварот, цёмных начэй. Ад песень, танцаў, смеху і плачу... Гэтых «і ад...» вельмі і вельмі шмат, яно і паўтараецца з дня ў дзень, з году ў год, і кожны раз усё новае і здзіўляючае, і рана-позна нараджае Яе, у якой усе вышэйзгаданыя тайны і чары стагоддзяў. І калі вы тое-сёе зразумелі, калі ад гэтага не абы-як, а часцей б»ецца ваша сэрца, калі адчулі не толькі вялікую радасць, але і вялікі смутак ад таго, што ўсё гэта часовае, і вось калі Яно даецца вам у рукі, дык перш чым усё гэта знікне, ці адмовіцеся вы ад Яго?..

Я ўжо не здолеў адмовіцца ад любімай жанчыны, ад кахання і не адштурхнуў Валю...

...Вось ужо трэці год мы з ёй жывём ні то наяве, ні то ў сне. Сустрэнемся, разыдземся, а пасля зноў і зноў нецярпліва чакаем, каб сустрэцца. На дачы, у якой-небудзь раённай гасцініцы, у адпачынак на поўдні, у горадзе — на кватэры майго нежанатага сябра.

Кожны раз, здаецца, бывае адно і тое ж, што можа быць паміж мужчынам і жанчынаю, але кожны раз усё непаўторнае. Скажам, я прыйду на «нашу» гарадскую кватэру раней, усхваляваны, як маладзён, узбуджана хаджу па пакоі, з нецярпеннем чакаю ўзрушліва гулкага цокання абцасікаў на двары, па лесвіцы, а пасля кароткага змоўніцкага званка ў дзверы, і вось ужо яна тут — у прыгожай прыталенай сукенцы ці ў шыкоўным касцюмчыку, зграбная, пыхкая здароўем і свежасцю, з любоўю і шчаслівым ззяннем у цёмных вачах, — заходзіць у прыхожую і адразу кідаецца мне на шыю: «Любы! Каханы! Адзіны!» Мы моўчкі, але доўга і пажадна цалуемся, а затым, калі п'янка пачынае вадзіць у бакі галава, а ў крыві ўскідваецца пякельны агонь, я нясу яе, прыемна важкую, на руках, у залі на канапе распранаю і зноў ды зноў задыхаюся ад таго, што паволі бачу ўсё больш і больш яе красы: вельмі вабныя ад пяшчоты і жаночай нядужасці пакатыя плечы, дзівосную шыю, слабыя, але гожыя рукі з вузкімі запясцямі, па-дзявочаму тугія і стромка настаўленыя, асляпляльна белыя, за апошні час папаўнелыя грудзі з хвалюючай сіняватай жылкаю, што спадае з-пад пахі да буйнаватага смактунка густа ружаватага колеру, вузкую паясніцу з асабліва моцным загарам і з сяйвом-кружочкам радзімак, ужо хораша акругленыя клубы ды ад таго, што яна гэтак аддана льне, неспатольна цалуе, а пасля ў страсці радасна ўскрыквае, а то і плача...

«Я з табой стала жанчынаю, — бывае, стуліўшыся пад маёй пахаю, шэпча пасля шчасліва. — Я ўжо люблю жыццё...»

«І я з табой, лэдзі мая, стаў мужчынам».

«Не, любы. Ты — мой муж. А хутка станеш і бацькам нашага дзіцяці...»

«Ты — што? — здзівіўся, калі ўпершыню пачуў такую навіну, хоць, як ведаеш, і жадаў гэтага больш за ўсё на свеце. — Ты ж казала, што...»

«Казала... Але перадумала. Я цябе кахаю, дык і хачу нарадзіць ад цябе.»

«Але ж...»

«Для мяне ніякіх «але ж...» няма. Я даўно ўжо казала: я — паўналетняя, дык сама ўсё рашаю!»

«А што скажа маці? Ён?»

«Маці мяне зразумее, калі нават не скажу ёй, хто мой любімы і каханы. А з ім жыць не буду. Ён не быў і не будзе маім... Ці ты, можа, не хочаш ашчасліваць мяне?»

«Хачу, мая дарагая лэдзі, мая сапраўдная жонка...»

І праўда, праз паўгода Валя нарадзіла. Здаровага і харошага хлопчыка. Мне, брат, паджыламу ўжо, і радасць, шчасце вялікае, і трывога ды клопаты, што і як будзе далей...

*1991—1992*

**У адпаведнасці з указам Аляксандра I у 1803 годзе была ўтворана Віленская вучэбная акруга, куратарам якой быў прызначаны вядомы польскі палітычны і дзяржаўны дзеяч Адам Чартарыйскі. Ён прыклаў шмат намаганняў па стварэнні навучальных установаў: адкрываецца Віленскі імператарскі універсітэт, а для папаўнення яго студэнтамі — некалькі гімназій. Першай з іх была Свіслацкая.**

Спадчына

# ЛУНАЎ ДУХ ВАЛЬНАДУМСТВА

## З ГІСТОРЫІ СВІСЛАЦКАЙ ГІМНАЗІІ

Чаму выбар упаў на Свіслач? Гэтаму паспрыялі некалькі прычын. У Гродзенскай губерні, складзенай з васьмі паветаў, апрача Гродна, Навагародка, Слоніма і Берасця, іншых гарадоў фактычна не было. Аднак ніводзін з іх на размяшчэнне гімназіі не падыходзіў. Гродна знаходзіўся на ўскрайку губерні, быў перагружаны войскам; Навагародак, які размясціўся на ўзвышшы, быў пазбаўлены «жывой вады», і школьная статыстыка выказвала, што тут была найбольшая захваральнасць вучняў; адкрыццё школы ў Слоніме патрабавала вялікіх выдаткаў на будаўніцтва школьных памяшканняў, а таксама блізкае суседства школы ў Жыровічах не гаварыла на карысць Слоніма. Берасце наогул не ўваходзіла ў разлік, бо знаходзілася ля самай аўстрыйскай граніцы. Свіслач жа мела перавагу ў тым, што была размешчана ў спрыяльным месцы — мела здаровыя «лёгкія» — Свіслацкую пушчу, танныя прадукты харчавання. Апрача таго, уладальнік Свіслачы В.Тышкевіч ахвяраваў гімназіі 1300 чырвоных злотых.

Тагачасны дырэктар школ Гродзенскай губерні Юзаф Касакоўскі вырашыў адкрыць гімназію ў Свіслачы.

18 верасня 1804 г. на прапанову князя Адама Чартарыйскага імператар выдае рэскрыпт аб адкрыцці ў Свіслачы «Гродненской губернской гимназии» — так яна афіцыйна звалася. Гімназія пачала дзейнасць 15 лістапада 1805 г. як акадэмічная школа, падначаленая Віленскаму універсітэту. Арганізатарам і першым дырэктарам Свіслацкай гімназіі быў Ю.Касакоўскі. /Дамагаўся гэтай пасады таксама Францішак Карпінскі, вядомы польскі паэт і педагог, які жыў недалёка ад Свіслачы. Але рэктар універсітэта не зацвердзіў яго кандыдатуру, прапанаваўшы Карпінскаму пасаду генеральнага візітатара літоўскай губерні, на што Карпінскі не згадзіўся/.

*Пасля Касакоўскага дырэктарам гімназіі стаў Яцак Крусінскі, які прабыў на гэтай пасадзе амаль чвэрць веку. Гэта быў выдатны педагог, доктар філасофіі, член Варшаўскага таварыства аматараў навук. Кіраўніком навучальнай часткі быў Казімір Храмінскі, прафесар агульнай гісторыі, права і палітыкі. Высокі навуковы ўзровень мелі і выкладчыкі гімназіі. Дастаткова назваць Лявона Бароўскага, настаўніка мовы і літаратуры. Гэта ён, стаўшы прафесарам Віленскага універсітэта, заўважыў і прадказаў талент і геніяльнасць Адама Міцкевіча. Іван Вольскі выкладаў фізіку. Ён аўтар падручніка па гэтым прадмеце і па заалогіі /быў надрукаваны, дарэчы, на ручным станку ў гімназіі/. Максіміліян Якубовіч — выкладчык лацінскай і грэчаскай моў, вядомы філолаг, затым прафесар Кіеўскага і Маскоўскага універсітэтаў, аўтар граматыкі лацінскай і польскай мовы і іншых навуковых прац. Ігнат Шыдлоўскі — настаўнік рыторыкі, пісьменнік, затым прафесар Віленскага універсітэта...*

У першы год навучання было ўсяго 46 вучняў. Аднак у наступныя гады колькасць вучняў хутка ўзрастае. З самага пачатку быў наладжаны падрыхтоўчы клас. У першыя гады ў гімназіі было фактычна шэсць класаў — два «нізшых» і чатыры «высшыя». Колькасць настаўнікаў вагалася ад 6 да 9. Апрача гэтага, былі яшчэ тры выкладчыкі, якія вучылі маляванню і чарчэнню. Ужо ў 1808 г. у гімназіі вучыліся 152 вучні. Цікавы быў склад вучняў: 118 сыноў шляхты, 10 дзяцей уніяцкіх святароў і 24 іншых станаў. З іх 129 католікаў, 14 уніятаў, 7 магаметан, 2 евангелікі. У наступныя гады колькасць вучняў перавышала 360.

*У першыя гады існавання школы вучыліся толькі 4 гадзіны ў дзень: дзве зранку і дзве папалудні. Але з часам дадалі яшчэ па адным ўроку зранку і пасля абеду. Вучні жылі ў мястэчку на прыватных кватэрах. Прымалі на кватэры вучняў і выкладчыкі, не выключаючы і дырэктара.*

*Спачатку школа размяшчалася ў драўляным будынку. Пасля смерці Вінцэнта Тышкевіча, фундатара гімназіі, згодна з яго воляй новы пан Свіслачы Тадэуш Тышкевіч прыступіў да будаўніцтва мураваных будынкаў. Закладка гімназіі адбылася вельмі ўрачыста і на «высокім узроўні». Вось як успамінае аб гэтым былы вучань Лявон Гельтман: «Закладка каменя пад будаўніцтва новых будынкаў гімназіі адбылася 4 сакавіка 1821 г. у дзень святога Казіміра з захаваннем звычайнай у гэтым выпадку цырымоніі. Князь куратар /Адам Чартарыйскі/ уласнай рукой апусціў агромністы камень з рыштавання ў дол фундамента... За князем гэта зрабілі ўладальнікі Свіслачы генерал Тышкевіч, ксёндз, дырэктар, прафесары, а пасля іх і вучні, а затым госці з усёй акругі».*

*Будоўля была закончана толькі ў 1827 г. Яна была выканана па праекце вядомага беларускага архітэктара Міхася Шульца. Гімназія складалася з чатырох будынкаў: галоўнага корпуса, дзе былі класы, спартыўнай і актавай залаў, бібліятэкі і бакавых будынкаў, дзе месціліся інтэрнат і кватэры для выкладчыкаў. Гімназічны комплекс, узведзены ў ампір-стылі /камень белага колеру, з грэчаскімі калонамі/ быў упрыгожаннем не толькі Свіслачы, але і ўсёй акругі. У апошнюю вайну ён быў амаль цалкам знішчаны, і толькі той будынак, дзе быў інтэрнат, захаваўся да нашых дзён.*

Якія прадметы выкладаліся? Навука аб хрысціянстве, навука аб звычаях, арыфметыка, геаметрыя, алгебра, фізіка, хімія, геаграфія, натуральная гісторыя, агульная гісторыя і тапаграфія, агульная статыстыка, расійская статыстыка, гісторыя расійская, сельская гаспадарка, сельскае будаўніцтва, навука аб гандлі, логіка, тэхналогія; мовы: польская, расійская, нямецкая, французская, лацінская, грэчаская, а таксама паліграфія. Можна ўявіць, якія шырокія веды набывалі вучні ў гэтай навучальнай установе.

Высокі ўзровень выкладання, багатая на той час бібліятэка, абсталяванне кабінетаў, прагрэсіўныя погляды настаўнікаў — усё гэта садзейнічала ўзнікненню тут вызваленчых і рэвалюцыйна-дэмакратычных тайных таварыстваў. Першым на Беларусі па часе ўзнікнення былі таварыствы «Навуковае» /1819 г./, затым «Маральнае», «Ваенныя сябры»...



*Будынкі гімназіі ў перадваенны час.*

*У гімназіі склаліся цікавыя традыцыі. Адна з іх — урачыстыя экзамены. Кожны год 29 чэрвеня адбываліся паказальныя іспыты і дэманстрацыя ведаў навучэнцаў. Гэтая дата супадала з заканчэннем навучальнага года. На ўсіх дарогах, якія вялі ў Свіслач, цесна рабілася ад вазкоў, калясак, брычак, якімі ехалі бацькі вучняў, каб нацешыцца поспехамі сваіх сыноў, а таксама забраць іх на канікулы. Сам экзамен адбываўся ў актавай зале, а затым у касцёле. За сеткай, якая адгароджвала алтар ад грамады, ставілі сталы, пакрытыя зялёным сукном. За сталамі сядзелі дырэктар і фундатар гімназіі граф Тышкевіч, прафесары.*

*Пасля ўступнай прамовы дырэктара праходзілі экзамены па прадметах, якія цікавілі бацькоў і гасцей. Найбольш эмоцый выклікалі вопыты па хіміі і фізіцы. Вялікую цікавасць выклікалі таксама выступленні пачынаючых паэтаў. Яны вельмі хваляваліся, калі на экзамене прысутнічаў Францішак Карпінскі.*

*Пасля экзаменаў уручаліся дакументы, пахвальныя лісты, медалі. Вечарам у мясцовым слынным Тышкевічаўскім тэатры давалі прадстаўленне.*

Цяпер у самы раз назваць вучняў гімназіі, якія праславілі не толькі яе, але наш край, Беларусь, Польшчу. Сярод іх на першае месца паставім Юзафа Крашэўскага, вядомага польскага пісьменніка, публіцыста, гісторыка, мастака. Тут ён у 1829 годзе атрымаў атэстат аб заканчэнні сярэдняй школы, тут фарміраваліся яго будучая цікавасць да літаратуры і гісторыі. Свіслацкую гімназію закончыў у 1823 г. Напалеон Орда — піяніст, кампазітар, педагог, музыкант, пісьменнік, але найбольш вядомы як мастак /акварэліст/. Скончыў Свіслацкую гімназію Восіп Кавалеўскі, заснавальнік манголазнаўства ў Расіі, аўтар трохтомнага «Мангольска-руска-французскага слоўніка» і іншых прац, прафесар, а затым і рэктар Казанскага універсітэта, падарожнік. У бібліятэцы Свіслацкай гімназіі да апошняй вайны захоўваліся яго навуковыя працы і лісты з Манголіі і Кітая.

Пасля вядомых падзей 1830—31 гг. гімназія была грунтоўна рэарганізавана. У 1835 г. яна стала павятовай, а ў 1851 г. ператорана ў пяцікласнае дваранскае вучылішча-прагімназію. Але школа не страціла сваіх традыцый. Тут вітаў дух вальнадумства і тайных таварыстваў. Якраз гэтую прагімназію закончыў Кастусь Каліноўскі. У 1864 годзе царскія ўлады за актыўны ўдзел студэнтаў у паўстанні /пад кіраўніцтвам былога вучня гэтай жа прагімназіі Каліноўскага/ установу закрылі, класы былой гімназіі часткова былі аддадзены пад кватэры царскіх чыноўнікаў. Засталося двухкласнае вучылішча. Прыгожыя будынкі гімназіі больш дзесяці гадоў выкарыстоўваліся не па прызначэнні.

Толькі ў 1876 годзе зноў адкрылася сярэдняя навучальная ўстанова, на гэты раз — расійская настаўніцкая семінарыя. Трэба адзначыць, што і гэтая навучальная ўстанова хутка здабыла папулярнасць тым, што вельмі добра рыхтавала настаўнікаў для пачатковых школ. Вучылішчу ізноў пашчасціла на добрых кіраўнікоў і настаўнікаў. Тут выкладалі Н.Нікіфароўскі, К.Ціхаміраў, С.Валасковіч, які сумесна з Ф.Лукашэвічам у 1921 г. у выдавецтве «Адраджэнне» выдаў методыку і зборнік задач па арыфметыцы. Многія навучэнцы Свіслацкай настаўніцкай семінарыі сталі пазней вядомымі грамадскімі, дзяржаўнымі і палітычнымі дзеячамі, вучонымі, педагогамі. І сярод іх былы народны камісар асветы БССР А.Баліцкі, былы міністр асветы нашай рэспублікі П.Саевіч, А.Каваленя — вядомы наш археолаг, Ю.Бібіла — бібліёграф, І.Бялькевіч — мовавед, аўтар «Краёвага слоўніка ўсходняй Магілёўшчыны». Тут вучыліся будучыя паэты К.Лейка, І.Дарашкевіч, М.Касцевіч /Макар Краўцоў/.

Нарэшце, у жніўні 1915 г., калі набліжаўся германскі фронт, семінарыя эвакуіравалася ў горад Мядынь Калужскай вобласці.

Акупацыйныя германскія ўлады адразу забаранілі выкладаць у школах на мове расійскай і выдалі дазвол у школах вучыць на мове мясцовага насельніцтва. Гэта дало магчымасць беларусам адкрываць школы на роднай мове. Але не было настаўнікаў для такіх школ. Дзеля іх падрыхтоўкі патрэбны былі адпаведныя навучальныя ўстановы — настаўніцкія семінарыі. У Свіслачы былі дзеля гэтага ідэальныя ўмовы — вучэбная база былой расійскай настаўніцкай семінарыі. Гэта і было выкарыстана. 16 кастрычніка 1916 года тут была адкрыта першая беларуская настаўніцкая семінарыя. Першым яе кіраўніком быў нехта Бендзеха, які паходзіў з Сілезіі. Беларускую мову выкладаў Баляслаў Пачобка. Затым ён стаў дырэктарам семінарыі. Праблемай стала адсутнасць падручнікаў па беларускай мове. І вырашыць часткова гэтую праблему ўзяўся Б.Пачобка. У 1917 годзе ў Вільні выходзіць яго падручнік «Граматыка беларускай мовы» /лацінкай/. Патрэбна адзначыць, што Б.Пачобка выдаў на беларускай мове «Беларускі малітоўнік» /Вільня, 1915 г./, «Святы Ёзафат Кунцэвіч» /Вільня, 1916 г./ і «Чалавек на вышыне сваёй годнасці» — кнігу на маральныя тэмы.

*Баляслаў Пачобка энергічна ўзяўся за арганізацыю і развіццё вучэбнага працэсу семінарыі, падбіраў адпаведных настаўнікаў. Тут працаваў Тодар Вернікоўскі, які пасля ў Вільні быў рэдактарам штотыднёвіка «Беларускае слова», які выходзіў у 1926—28 гг. Нягледзячы на цяжкасці ваеннага часу, рэжым акупацыі, недахоп вучэбнага абсталявання, Свіслацкая беларуская семінарыя адыграла важную ролю ў развіцці беларускіх школ, мовы і культуры ў былой Гродзенскай губерні. Хоць працавала яна толькі два гады — да 15 лістапада 1918 г., у гэтай семінарыі атрымалі адукацыю амаль 150 настаўнікаў беларускай мовы.*

Роля Свіслацкай беларускай настаўніцкай семінарыі, як цэнтра распаўсюджання роднай мовы і культуры і беларускай думкі ў нашым краі, была вельмі істотнай, а свядомасць насельніцтва Свіслачы і навакольных вёсак — высокай. Аб гэтым сведчыць патрабаванне ім адкрыцця школы з беларускай мовай навучання ў Свіслачы, калі тут усталявалася польская ўлада. 23.10.1921 г. жыхары мястэчка Свіслачы і сямі вёсак напісалі заяву Ваўкавыскаму школьнаму інспектару, каб ён дазволіў адкрыць школу «на нашай роднай беларускай мове з вывучэннем і польскай мовы». Пад заявай было 56 подпісаў бацькоў і спіс 110 вучняў. Клапаціўся аб беларускай школе былы настаўнік беларускай сямігодкі Т.Вернікоўскі. Але адказ быў катэгарычны: «Нельга!»...

Прайшоўшы 185-гадовы шлях, Свіслацкая гімназія зведала многа пераўтварэнняў і рэформ. Але заўсёды зберагаліся ў ёй высокі ўзровень вучэбнай і выхаваўчай работы, вальнадумства, дэмакратызм, павага да традыцый.

Цяпер усё лепшае, набытае гэтай славутай школай на працягу многіх дзесяцігоддзяў, імкнецца прадоўжыць Свіслацкая сярэдняя школа N I імя Кастуся Каліноўскага.

**Аляксандр ПАЛУБІНСКІ,**
**заслужаны работнік культуры Беларусі**

*г.п.Свіслач*


# ЛіМ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:

**САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

ГАЗЕТУ РЭДАГАВАЛІ:

| | |
|---|---|
| Х.ДУНЕЦ | (1932-35) |
| І.ГУРСКІ | (1935-41) |
| А.КУЛЯШОЎ | (1945-46) |
| М.ГОРЦАЎ | (1947-49) |
| П.КАВАЛЁЎ | (1949-50) |
| В.ВІТКА | (1951-57) |
| М.ТКАЧОЎ | (1957-59) |
| Я.ШАРАХОЎСКІ | (1959-61) |
| Н.ПАШКЕВІЧ | (1961-69) |
| Л.ПРОКША | (1969-72) |
| Х.ЖЫЧКА | (1972-76) |
| А.АСІПЕНКА | (1976-80) |
| А.ЖУК | (1980-86) |
| А.ВЯРЦІНСКІ | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:

Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Юрась ЗАЛОСКА, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Барыс ПЯТРОВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), Юрась СВІРКА

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі -- 33-24-61; намеснікі галоўнага рэдактара -- 33-25-25; 33-19-85; аддзелы: публіцыстыкі -- 33-25-25, пісьмаў і грамадскай думкі -- 33-19-85, літаратурнага жыцця -- 33-24-62, крытыкі і бібліяграфіі -- 33-22-04, паэзіі і прозы -- 33-22-04, музыкі -- 33-21-53, тэатра, кіно і тэлебачання -- 33-21-53, выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў -- 33-24-62, навін -- 33-19-85, мастацкага афармлення -- 33-24-62; фотакарэспандэнт -- 33-24-62; бухгалтэрыя -- 26-86-40.





Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку"

Індэкс 63856. Наклад 12.000.
Нумар падпісаны 12.08.1993 г.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12